E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 4 (33) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛЮТЫ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by



## Ці пачне беларускі суд гаворыць па-беларуску?

Летась Канстытуцыйны суд выказаўся за падвышэнне статуса беларускай мовы, у прыватнасці, у органах юстыцыі. Ці выконваецца пастанова галоўнага суда краіны? Гаворыць палітолаг Вольф Рубінчык:

– Пад канец 2003 г. я вёў працэс супраць аднаго з дзяржаўных выдавецтваў. Паколькі ягоныя прадстаўнікі ўпарта размаўлялі па-руску (хоць беларускай мовай і валодаюць), я заявіў хадайніцтва аб перакладчыку на родную мову. Суддзя адхіліў яго. Насуперак майму патрабаванню, рашэнне было мне ўручана на рускай мове, што супярэчыла артыкулу 16 ГПК. Толькі праз месяц атрымаў пераклад, які стракаціць элементарнымі памылкамі («зароботок», «отказать» замест «адмовіць» і г.д.). Па-мойму, у судзе Маскоўскага раёна ігнаруюць рашэнне Канстытуцыйнага суда.

У гэтым годзе Мінскі гарадскі суд скасаваў рашэнне суда першай інстанцыі па справе У.Лабковіча, якому раённы суддзя адмовіў у перакладчыку. Мо, хоць на сталічным узроўні работнікі юстыцыі авалодалі першай дзяржаўнай? Было б добра, каб ТБМ зладзіла курсы для суддзяў і пракурораў, якія разумеюць беларускую мову, але саромеюцца ёй карыстацца. І на беларускамоўных удзельнікаў працэса глядзяць, як на дзіва.

**К.С.**

# Імператарскі замах Уладзіміра Пуціна

***Новы ўрад – гэта не болей чым дэпартамент у карпарацыі «Крэмль»***



Напярэдадні выбараў расійскага прэзідэнта абвешчаны новы склад расійскага ўрада. Колькасць міністэрстваў скарацілася амаль удвая – з 30 да 17. Ствараецца абсалютна чынавенскі кабінет, заклікаsuccessfully апаратыўна і без абмеркаванняў выконваць любое распараджэнне Крамля. Каманда Фрадкова чымсьці нагадвае сучасную футбольную – дзе кожнага ігрока, і нават галоўнага трэнера, можна ў любую хвіліну замяніць на другога, а ўсе ніткі кіравання гульнёй насамрэч знаходзяцца ў руках прэзідэнта клуба.

Цяпер стала канчаткова ясна, што ў Крамлі разумеюць пад адміністратыўнай рэформай. Выканаўчая ўлада становіцца нашмат больш празрыстай, транспарэнтнай, як модна сёння гаварыць, – але не для насельніцтва, а для прэзідэнцкай адміністрацыі. Для большай лёгкасці кіравання гэтым кампактным «саўмінам» яго апаратам будзе загадваць праверапы прэзідэнцкі чыноўнік Дзмітрый Казак. Дэ-факта менавіта Казак можа стаць сапраўдным, хоць і не публічным кіраўніком урада, калі на тое будзе воля кіраўніка дзяржавы. Нават у часы росквіту ўрада Касьянава начальнік яго апарату І.Шувалаў іграў самастойную і вельмі значную ролю.

Сэнс таго, што адбываецца ў вышэйшых расійскіх эшалонах, можна сфармуляваць так: ва ўрадзе будуць працаваць тыя, і толькі тыя, з кім зручна працаваць Пуціну. Старыя сувязі, прыхільнасці і абавязацельствы болей не актуальныя. З трэскам вылецелі чыноўнікі, якія лічыліся «прэзідэнцкімі любімчыкамі». Няма чаго казаць аб тых кіраўніках, якія пры ўсім жаданні не маглі быць самастойнымі ігракамі. Натуральна быў зволены і іншы прыкметны ігрок ранейшага часу, значны член старой «сям'і» Уладзімір Рушайла. Нават Аляксей Кудрын пацярпеў ад апошняга пературсу – статус свайго прыбліжанага Пуцін вырашыў панізіць да простага міністра. У цэлым ключавыя эканамічныя ведамствы засталіся за старой камандай: Кудрыным, Грэфам, Хрысценкам. Прэзідэнт Расіі, відаць, палічыў, што эканоміка – не тая сфера, дзе сёння варта эксперыментаваць. Не рызыкнуў ён звольніць і міністра-выратавальніка – хоць настойлівыя чуткі аб адстаўцы Сяргея Шайгу хадзілі даўно.

Некалькі свежых прызначэнняў можна лічыць іміджавымі. Рэктар сталічнай кансерваторыі Сакалоў на чале культуры – прывітальны жэст у бок інтэлігенцыі. Першы і адзіны віцэ-прэм'ер Жукаў – прызнанне заслугаў «Адзінай Расіі». Галоўны па нетрах Юры Трутнеў – камплімент прагрэсіўнаму губернатарскаму корпусу. На знешнюю палітыку прэзідэнт вырашыў прызначыць кваліфікаванага прафесіянала, які карыстаецца павагай за мяжой. У адрас Лаўрова адразу пайшлі станоўчыя каментары Захаду. Але такіх дэманстратыўных прызначэнняў – мінімум, а ў астатнім матывы падбору кадраў застаюцца ваеннай таямніцай Крамля.

Замежныя сродкі масавай інфармацыі адзначаюць, што ніводзін іншы дэмакратычна абраны прэзідэнт сучаснай дзяржавы, ні амерыканскі, ні французскі, не маюць такой паўнаты паўнамоцтваў, якую мае Уладзімір Пуцін.

Расейская канстытуцыя дазваляе Пуціну кіраваць краінай, не азіраючыся на ўрад ці парламент. Падзелу ўладаў у духу парламенцкіх дэмакратыяў расійская прэзідэнцкая сістэма не ведае. Ад асобы ачольніка Крамля залежыць, якімі будуць суадносіны паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі.

Якім стане для Беларусі саюз з такой Расіяй?

**Па матэрыялах СМІ**

## Высяленне ТБМ адкладзена на год

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны атрымала ліст за подпісам дырэктара Камунальнага унітарнага прадпрыемства «Мінскі гарадскі цэнтр нерухомасці» С.Коцікава, у якім, у прыватнасці, паведамляецца: *«Ваш ліст, адрасаваны Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.Р.Латыпаву, па даручэнні Мінгарвыканкама разгледжаны ў Мінскім гарадскім цэнтры нерухомасці. Паведамляем, што 25.02.2004 г. камісіяй адміністрацыі Партызанскага раёна па ўпарадкаванні выкарыстання нежылых памяшканняў прынята рашэнне перазаключыць дамовы арэнды з ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» і Мінскай гарадской арганізацыяй Таварыства тэрмінам да 4 лютага 2005 года».*

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра ўдзячнае ўсім сваім прыхільнікам, чый голас у абарону ТБМ паспрыяў станоўчаму вырашэнню канфліктнага пытання.

## Героі Монтэ-Касіна



Беларусы ваявалі супраць нацызму ня толькі ў складзе савецкай арміі, але і на заходнім фронце – пераважна ў польскіх вайсковых аддзелах. Пра адзін з эпізодаў гэтага змагання, бітву пад Монтэ-Касіна, распавядае дакумэнтальны фільм, які з мінулай восені здымаўся ў Беларусі.

Аўтарам ідэі фільму, навуковым кансультантам і адным з сцэнарыстаў зьяўляецца беларускі гісторык Юры Грыбоўскі. З канца 90-х ён дасьледуе лёсы ўраджэнцаў Беларусі, якія падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіліся ў войсках заходніх саюзьнікаў. «Да мяне зьвярнуліся прадстаўнікі адной беларускай тэлекампаніі з прапановай падказаць сюжэты пра малавядомыя старонкі Другой сусьветнай вайны, – распавядае Ю.Грыбоўскі. – Аказалася, што яны рыхтавалі сэрыю 30-хвілінных дакумэнтальных фільмаў, прысьвечаных вайне. Маскоўскія спонсары спынілі свой выбар на ідэі фільму пра ўдзел беларусаў у бітве пад Монтэ-Касіна ў Італіі».

Дакумэнтальны фільм распавядае пра гісторыю стварэньня і баявы шлях арміі генэрала Андэрса, закранае Катынскую трагедыю, але большая яго частка прысьвечаная бітве пад Монтэ-Касіна ў 1944 г. Галоўныя героі фільма – два былыя андэрсаўцы-ўраджэнцы Беларусі, якія пасьля вайны засталіся жыць у Вялікабрытаніі – Мікола Гісіч і Ўладзімер Кулан. Апошні нядаўна памёр, таму ў фільме пра бацьку распавядае сын...

Ю.Грыбоўскі кажа, што прэм'ера дакумэнтальнай стужкі з рабочай назвай «Героі Монтэ-Касіна» адбудзецца вясной на расейскім тэлеканале ТВЦ. «На жаль, мова фільма будзе расейская», – кажа Ю.Грыбоўскі. І пабачаць фільм першымі расейцы, а пасьля ўжо, калі пашанцуе, і беларусы. Як кажуць, хто плоціць, той і замаўляе музыку...

**Сяргей КЛІМ**

# Сойм Літвы распачаў слуханні па імпічменту прэзідэнту

8 сакавіка Сейм Літвы пачаў парламенцкі абвінавачы працэс супроць кіраўніка дзяржавы Раландаса Паксаса. Старшыня Вярхоўнага Суда краіны Вітаўтас Грайчус у прысутнасці 5 абвінаваўцаў Сойма і адвакатаў Пасаса аб'явіў сутнасць абвінавачванняў, высунутых супроць прэзідэнта. Нагадаем, што абвінавачваецца ў сувязях са злачыннымі групоўкамі і ціскам на палітыкаў і бізнесменаў краіны ў асабістых інтарэсах, і, як вынік, ў парушэнні канстытуцыі і прысягі. Вырашана, што ў далейшым слуханні па імпічменту будуць праходзіць 4 разы на тыдзень. Аднак апошнім і вырашальным аргументам за ці супроць імпічменту стане рашэнне Канстытуцыйнага суда, які зараз вывучае высновы спецыяльнай парламенцкай камісіі па гэтым пытанні.



Працэс імпічменту можа быць спынены і ў тым выпадку, калі Паксас заявіць аб сваей добраахвотнай адстаўцы. Аднак прэзідэнт шматкроць заяўляў, што невінаваты, і пакідаць па сваёй волі пасаду не збіраецца. Болей за тое, калі яго адхіляць ад пасады, ён выставіць сваю кандыдатуру на датэрміновых прэзідэнцкіх выбарах. Згодна з законам, яны павінны адбыцца праз тры месяцы.

Дадзеныя сацыялагічнага апытання, якое праводзілася ў лютым кампаніяй «Балтыёс тырымай» і апублікаваныя ў СМІ, сведчаць, пра цяперашні невысокі рэйтынг Паксаса. У жыхароў Літвы самым вялікім даверам карыстаюцца былыя прэзідэнты краіны. Так, дзейнасць папярэдняга прэзідэнта Валдаса Адамкуса станоўча ацанілі 69% апытаных жыхароў Літвы. На другім месцы – былы прэзідэнт (1993–1998 гады), а цяпер прэм'ер-міністр Альгірдас Бразаўскас. Яму выказалі давер 65% рэспандэнтаў. Сённяшні прэзідэнт Раландас Паксас у спісе вядучых палітыкаў займае 16-е месца. Яму даврають 36% рэспандэнтаў. У гэтым апытанні прынялі ўдзел 1.000 чалавек з 100 населеных пунктаў ва ўзросце ад 15 да 74 гадоў.

**United World Colleges**

**Беларускі камітэт каледжаў міжнароднай супольнасці**

**абвяшчае конкурс на атрыманне 2 бясплатных агульнаадукацыйных стыпендый у Міжнародных каледжах у Нарвегіі, Італіі, музычных стыпендый у Італіі, а таксама 75% стыпендыі ў Міжнародным Сельскагаспадарчым Каледжы ў Венесуэле.**

У каледжах выкарыстоўваецца сістэма міжнароднай перадуніверсітэцкай адукацыі IB (каледж у Венесуэле дае спецыяльнасць «менеджмент у галіне фермерства»). Навучанне вядзецца на англійскай мове.

Галоўная мэта Каледжаў міжнароднай супольнасці - усталяванне ідэялаў міра, талерантнасьці і супрацоўніцтва паміж моладзьдзю розных краін праз адукацыю. Кожны студэнт каледжа з'яўляецца прадстаўніком сваёй краіны і павінен як мага больш паведаміць пра яе сваім сябрам па вучобе з больш чым са 150 іншых краін. Таму, апроч выдатных акадэмічных ведаў, кандыдаты павінны выдатна валодаць беларускай мовай, ведаць гісторыю і культуру Беларусі.

**Музычныя стыпендыі (струнныя інструменты: фартэп'яна, скрыпка, віяланчэль, чэлло) прызначаюцца для асобаў, якія праявілі з выбітныя здольнасці і маюць дасягненні ў галіне музыкі.**

**Узрост абітурыентаў – 16–17 год (16 год павінна споўніцца да 1 верасня 2004 г.). Узрост абітурыентаў Сельскагаспадарчага Каледжа ў Венесуэле – 18–22 гады, пажадана, каб яны былі сялянскага паходжання і мелі схільнасці да сельскагаспадарчай працы.**

**Конкурс адбываецца ў два туры. На першы тур абітурыенты павінны дасылаць да 10 красавіка 2004 г. заяву са сваім адрасам, кантактным тэлефонам і нумарам школы, даведку аб стане здароўя, ліст паспяховасьці за мінулы і гэты навучальныя гады, характарыстыку, звесткі аб удзеле ў вучнёўскіх алімпіядах, мастацкай самадзейнасці, спартыўных секцыях, копіі грамат, дыпломаў і г.д., а таксама твор на тэму: «Ліст з Беларусі» аб'ёмам не больш за 4 старонкі вучнёўскага сшытку на беларускай ці англійскай мовах.**

**Прэтэндэнты на музычныя стыпендыі павінны дасылаць, акрамя названых матар'ялаў, відэазапіс з выкананнем не менш за 2 музычныя п'есы агульнай працягласцю да 10 хвілін, а таксама копіі дыпломаў музычных конкурсаў.**

Пераможцы будуць выкліканыя на другі тур, які адбудзецца 23 красавіка 2004 г.

Дакументы дасылаць на адрас:

**Мінск 220050, вул. Румянцава, 13 з паметкай «на конкурс «UWC»**

# Расейскія ваенныя базы ў Беларусі

***Колькі можа атрымаць Беларусь, запатрабаваўшы ад Расеі плаціць за яе ваенныя аб'екты? Які праўны статус радару «Волга» ў Ганцавічах? Якія наступствы можа мець патрабаваньне вывесьці расейскія ваенныя аб'екты з тэрыторыі Беларусі?***

**У перадачы «Экспэртыза Свабоды», прысвечанай тэме расейскіх ваенных базаў на тэрыторыі Беларусі, якая прагучала па «Радыё Свабода», бралі ўдзел журналіст Юры Дракахруст, аглядальнік газэты «Белорусский рынок» Паўлюк Быкоўскі, супрацоўнік амэрыканскага дасьледнага цэнтру Heritage Foundation Арыэль Коэн і расейскі ваенны аналітык Павал Фэльгэнгаўэр.**







**Увесь белы свет застаўлены радарамі. Самаходнымі, перасоўнымі, стацыянарнымі. Адзін з самых сучасных радараў усталяваны на Беларусі і належыць Расеі. Лічыцца, што ён забяспечвае бяспеку расейскіх абшараў ад ракетнага нападу. І беларускіх таксама. І таму, маўляў, гэта вельмі добра, што на нашай зямлі ёсць гэтыя суседскія ваенна-тэхнічныя цуды. Аднак расейская ваенная прысутнасць ніводнага разу не захавала Беларусь ад ваеннай навалы. Узгадаем 1812, 1914, 1941 год. Таму не прывядзі Бог, каб аднекуль скіраваліся ў наш бок ракеты. Невядома як далятуць яны да Расеі, але нас паспеюць накрыць. Так што ваеннага сэнсу ў прысутнасці радару няшмат. Але ў яго ўбуханы суседзямі мільёны даляраў, і таму мы асуджаныя яго цярпець. Так вырашыла наша ўлада...**

**Дракахруст:** У цяперашнім газавым канфлікце паміж Менскам і Масквой беларускі бок ці не ўпершыню ўзьняў тэму расейскіх ваенных базаў на тэрыторыі Беларусі. Нагадаем, у Ганцавічах знаходзіцца расейская радыёлякацыйная станцыя папярэджаньня пра ракетны напад «Волга», у Вілейцы дзейнічае вузел сувязі Ваенна-марскога флёту Расеі. Аляксандар Лукашэнка ўжо выказаўся наконт таго, што калі Расея хоча рынкавых разьлікаў, то яна іх атрымае, атрымае за ўсё, у тым ліку і за гэтыя два ваенныя аб'екты. Пра іхнае значэньне ў абаронча палітыцы Расеі гаворыць ваенны адмысловец Павал Фэльгэнгаўэр.

**Фэльгэнгаўэр:** Наколькі я ведаю, самы важны расейскі ваенны аб'ект у Беларусі - гэта нядаўна адкрытая пад Баранавічамі РЛС папярэджаньня пра ракетны напад. Гэтая станцыя мусіла замяніць радар, які быў раней на тэрыторыі Латвіі ў Скрундэ. Радар сапраўды вельмі важны, безь яго Расеі – няма куды. Вельмі вялікія грошы былі ўкладзеныя ў ягоную дабудову. Зразумела, Беларусь можа запатрабаваць падвышэньня арэндных плацяжоў, і безумоўна з радарам ў беларусаў тут сур'ёзныя пазыцыі.

**Дракахруст:** Але ранейшыя дамоўленасьці не прадугледжваюць спагнаньня з расейцаў платы за Ганцавіцкую РЛС. Яшчэ ў 1995 годзе Менск і Масква падпісалі пагадненьне, паводле якога нерухомасьць і ўчастак зямлі пад радар перадаюцца расейскаму боку на 25 гадоў без спагнаньня падаткаў. Гэтая дамоўленасьць была часткай пакету пагадненьняў пра мытны саюз. У наступным 1996 годзе Расея дадаткова юрыдычна абараніла свае ваенныя аб'екты ў Беларусі шляхам узаемнага дараваньня даўгоў, так званага «нулявога варыянту».

**Быкоўскі:** Гэтае пытаньне ўсплыла ў 1996 годзе, калі падпісваўся «нулявы варыянт». Тады Беларусь і Расея адна другой даравалі даўгі. З расейскага боку запазычанасьць складалася зь нявыплачаных грошай за радыёактыўныя рэчывы ў ракетах, якія вывозіліся з тэрыторыі Беларусі, а таксама з платы за карыстаньне ваеннымі аб'ектамі на тэрыторыі Беларусі. Але гэтае пытаньне не было вырашанае канчаткова. Тыя аб'екты, пра якія ідзе размова, тады не былі дабудаваныя. Зараз беларускі бок тэарэтычна можа паставіць пытаньне, што іхны кошт павялічыўся. Але ўжо пасьля «нулявога варыянту» ўзьнікла ідэя агульнай абароннай прасторы «саюзнай дзяржавы», было падпісана шмат пагадненьняў, паводле якіх гэтыя аб'екты выкарыстоўваюцца ў агульных інтарэсах і фінансуюцца і Беларусьсю, і Расеяй. Таму пытаньне наконт падвышэньня арэнднай платы за гэтыя аб'екты ў прынцыпе можа ўзьнімацца, але гэта азначае, што будзе перакрэсьленая вялікая колькасьць беларуска-расейскіх дамоваў.

**Дракахруст:** Дадам, што ў 1996 годзе Беларусі былі дараваныя даўгі за той жа самы газ, якія назапасіліся з 1991 году. На момант падпісаньня «нулявога варыянту» яны склалі ўнушальную лічбу – каля 900 мільёнаў даляраў.

Калі Беларусь запатрабуе платы за Ганцавічы, гэта значыць адыдзе ад «нулявога варыянту», то ці можа Расея прыгадаць той стары газавы доўг у амаль мільярд даляраў і запатрабаваць аплаты?

**Быкоўскі:** Гіпатэтычна гэта магчыма. Але тады і Беларусь даравала расейскія даўгі. Не было дакладных сумаў, але гэтыя даўгі існавалі. Таму гутарка можа ісьці не пра скасаваньне тагачаснага «нулявога варыянту», а пра заключэньне новага. Але мне здаецца, што пры цяперашнім уладзе Расеі такі, напэўна, карысны для Беларусі «нулявы варыянт», які быў заключаны зь Ельцыным, з Пуціным Лукашэнка заключыць ня здолее.

**Дракахруст:** А колькі ў прынцыпе магла б атрымаць Беларусь, запатрабаваўшы ад Расеі плаціць за ганцавіцкую РЛС? Плата Расеі за арэнду базы ў Скрундэ да яе закрыцьця складала 5 мільёнаў даляраў у год. У параўнаньні з сотнямі мільёнаў даляраў, якія фігуруюць у газавых спрэчках паміж Менскам і Масквою, сума такога парадку нічога не вырашае і ня можа быць козырам беларускага боку.

Аднак, паводле ацэнкі Паўла Фэльгэнгаўэра, і ваенны, і палітычны статусы былога радару ў Скрундэ і цяперашняга – у Ганцавічах істотна адрозьніваюцца.

**Фэльгэнгаўэр:** Ён сапраўды навейшы, чым той, што быў у Скрундэ. Там была невялікая арэндная плата, але там пасярэднікам былі ЗША. Вашынгтон націснуў на Латвію, каб захавалі на пэўны час гэты радар, бо ў Вашынгтоне ня хочуць, каб Масква стала «сьляпой» і сосьлепу шпульнула куды-небудзь ракетай, барані Бог. Ну і адпаведна Рызе параілі не прасіць зашмат грошай. Паколькі РЛС усё роўна зьбіраліся зачыняць, то займацца вымагальніцтвам і самім латышам было не з рукі.

Тут сытуацыя іншая. Перасунуць РЛС, што стаіць пад Баранавічамі, зараз у прынцыпе немагчыма, страта гэтага радару створыць сур'ёзныя праблемы. А колькі што каштуе, то тут, як той казаў, колькі хто запросіць. Напрыклад, кубінцы за радыётэхнічную базу падслухоўваньня каля Гаваны сотні мільёнаў патрабавалі і атрымлівалі ад Расеі».

**Дракахруст:** Патрабаваньне да Расеі з боку Менску аплачваць расейскую ваенную прысутнасьць палягала б у рэчышчы працэсаў, што адбываюцца ў іншых краінах СНД. У 1999 годзе Таджыкістан падпісаў дамову з Расеяй пра статус расейскай ваеннай базы. Але апошнім часам Душанбэ стаў патрабаваць, каб Масква падвысіла арэндную плату за свае ваенныя аб'екты ў Таджыкістане і, прынамсі, пачала плаціць за РЛС «Нурэк». Сыстэма «Нурэк» падобная на ганцавіцкую «Волгу» і ўваходзіць у агульную сыстэму папярэджаньня пра ракетны напад.

Яшчэ адна такая расейская станцыя – «Габала» – знаходзіцца ў Азербайджане. Масква плаціць Баку за арэнду «Габалы» 7 мільёнаў даляраў штогод. Цана, як бачым, блізкая да той, якую Расея плаціла Латвіі за радар у Скрундэ. Але, як адзначаюць адмыслоўцы, ганцавіцкая «Волга» значна больш сучасная, чым «Габала», значыць, і арэнда, тэарэтычна кажучы, павінна быць большай.

У любым выпадку, як паведамляе расейскае выданьне «Русский курьер», зараз у міністэрстве абароны Беларусі ўважліва вывучаюць расейска-азербайджанскую дамову пра арэнду Габалінскай РЛС.

А ці можа Беларусь запатрабаваць наагул прыбраць зь беларускай зямлі расейскія ваенныя базы? Так бы мовіць, не дасеце газу, дык забірайце сваю РЛС. На думку Паўлюка Быкоўскага, рэакцыя Масквы на такі крок магла б быць гранічна жорсткай.

**Быкоўскі:** Юрыдычна Лукашэнка можа гэта сказаць, бо базы зьяўляюцца беларускай уласнасьцю, якую арэндуе Расея. Больш таго – гэтыя аб'екты юрыдычна нават ня маюць статусу ваенных базаў, фармальна яны не зьяўляюцца замежнай ваеннай прысутнасьцю. Таму ў Лукашэнкі ёсьць юрыдычны мэханізм, каб пазбавіцца ад гэтых аб'ектаў.

Але я ня думаю, што ён здолее практычна ўзьняць гэтае пытаньне. Гэтыя аб'екты настолькі патрэбныя Расеі, што напэўна Расея можа праігнараваць прынцып беларускага сувэрэнітэту і паспрабаваць абараніць гэтыя аб'екты нават вайсковай сілай. Я разглядаю гэты сцэнар толькі гіпатэтычна, бо абодва бакі напэўна будуць імкнуцца не даводзіць сытуацыю да такой адкрытай варажнечы.

**Дракахруст:** У свой час Аляксандар Лукашэнка казаў, што нібыта амэрыканцы прапанавалі яму 10 мільярдаў даляраў за выдаленьне зь беларускай зямлі расейскай РЛС. Кіраўнік Беларусі тады тлумачыў, што непарушнае братэрства з Расеяй не прадае. Зараз з братэрствам узьніклі пэўныя праблемы. Але і пра амэрыканскія шматмільярдныя прапановы Лукашэнка чамусьці зараз не распавядае: можа, цана на братэрства ўпала, можа, што іншае адбылося.

**Коэн:** Я мяркую, што калі Лукашэнка пачне выпіхваць расейскую базу, то ён тым самым паскорыць свой канец. Захад будзе ставіцца да расейскай базы ў Беларусі гэтак жа спакойна, як ён ставіцца да такой жа расейскай базы ў Азербайджане. Як правіла, станцыі раньняга папярэджаньня пра ракетны напад толькі ўмацоўваюць стабільнасьць і даюць больш спакойна спаць ваенным. Таму я ня бачу абсалютна ніякіх праблемаў, калі гэтая база захаваецца на шмат гадоў.

**Дракахруст:** Павал Фэльгэнгаўэр мяркуе, што да рэзкіх крокаў у пытаньні ваенных аб'ектаў справа ня дойдзе, акрамя іншага і з прычыны палітычных стратаў у Расеі, якія панясе Лукашэнка, калі запатрабуе выводу расейскіх базаў.

**Фэльгэнгаўэр:** Калі ён у грубай форме запатрабуе вываду РЛС, то ён можа страціць сваіх прыхільнікаў у Расеі ў нацыяналістычных колах. Але я ня думаю, што да гэтага дойдзе. Я думаю, што тут будзе гандаль. Нам з гэтым радарам няма куды падзецца. Але і Лукашэнку таксама няма куды падзецца. Так што вока яны адзін аднаму можа і выдзяўбуць, але не да сьмерці. Мяркую, што знойдзецца нейкі кампраміс, але іхная няпрыязь з Пуціным увесь час будзе ўплываць і выклікаць новыя канфлікты. І аргумэнтамі станууцца і ваенныя аб'екты, і ў яшчэ большай ступені – нафта– і газаправоды, транспартныя патокі.

Там магчымасьцяў узаемнага вымагальніцтва больш, і ваенныя аб'екты – гэта малая частка. Наўрад ці яны будуць галоўнай тэмай. Хаця магчыма і яны: я паўтаруся - з гэтым радарам мы сапраўды патрапілі з Лукашэнкам у адзін кошык.

**Радыё Свабода**

# Записки о подавлении мятежа

## составленные виленским генерал-губернатором графом Муравьевым

25-го апреля 1863 г. брат мой былъ у Государя, и, как я после узнал, Государь былъ очень разстроен полученными изъ Литвы сведениями. Я ожидал с нетерпениемъ возвращения брата отъ государя, чтобъ узнать о ходе делъ на Западе, какъ вдругъ приезжаетъ отъ Государя фельдъегерь съ приглашениемъ меня къ нему...

Взойдя къ Государю, я его нашелъ весьма смущеннымъ. Онъ мне разсказывалъ о положении Литвы и Царства Польскаго, обо всехъ своихъ опасенияхъ относительно возможности удержать за нами Литву... При этомъ его величество сказалъ, что имеетъ до меня просьбу, чтобы я принялъ на себя управление Северо-западнымъ краемъ, съ командованиемъ всеми войсками, въ немъ расположенными, и съ присоединениемъ къ четыремъ губерниямъ Виленскаго генералъ-губернаторства, двухъ Белорусскихъ; онъ надеется, что я прекращу мятежъ и приведу тамъ все въ надлежащий порядокъ; что онъ даетъ мне все полныя права действовать по усмотрению надобности.

...На предложение Государя я отвечалъ, что, какъ русскому, было бы безчестно мне отказываться отъ исполнения возлагаемой ныне на меня его величествомъ обязанности: всякий русский долженъ жертвовать собою для пользы отечества, и потому я безпрекословно принимаю на себя эту трудную обязанность генералъ-губернатора въ томъ краю; что отъ его величества будетъ зависеть приказать мне оставаться тамъ столько времени, сколько онъ найдетъ это нужнымъ, но что вместе съ темъ прошу полнаго со стороны его величества доверия, ибо въ противномъ случае не можетъ быть никакого успеха. Я съ удовольствиемъ готовъ собою жертвовать для пользы и блага России; но съ темъ вместе желаю, чтобы мне были даны и все средства къ выполнению возлагаемой на меня обязанности, и, главнее всего, условиться предварительно въ системе действий; при чемъ я сказалъ его величеству, что нахожу действия по управлению Царствомъ Польскимъ вовсе несоответственными настоящимъ обстоятельствамъ; необходимо, чтобы какъ въ Западныхъ губернияхъ, такъ и въ Царстве, была одна система, т. е. строгое преследование крамолы и мятежа, возвышение достоинства русской национальности и самаго духа въ войске, которое теперь негодуетъ отъ того, что оно, будучи постоянно оскорбляемо поляками, не имело даже права противодействовать ихъ буйству; что необходимо дать решительный отпоръ иностраннымъ державамъ, которыя будуть всеми средствами опорочивать предлагаемую мною систему строгаго преследования мятежа и польскаго революционнаго духа...

Я занялся устройствомъ самого города Вильны и учреждениемъ въ оном полиции, которой не существовало, так что начальники шаекъ, окружавших городъ, и вообще все повстанцы получали все нужное изъ Вильны и сами проживали въ оной по несколку дней – словомъ Вильна была арсеналъ и плацдарм мятежниковъ, снабжавшая ихъ ежедневно и значительнымъ числомъ новобранцевъ. Всякий день полицмейстеръ представлялъ мне сведения объ ушедшихъ въ мятежъ обывателяхъ, среднимъ числомъ отъ 40-50 человекъ въ сутки.

Я прибегнулъ къ мере обложения штрафами, которая въ результате оказалась очень удачною. Приказано было домохозяевъ, а также мастеровъ, трактирщиковъ и другихъ облагать штрафомъ отъ 10-25 рублей за каждаго ушедшаго отъ нихъ человека въ мятежъ и взыскивать штрафъ неукоснительно, продавая последнее имущество. Такимъ образомъ были обложены монастыри и приходское римско-католическое духовенство за всякаго уходившаго изъ ихъ среды въ мятежъ по 100 рублей, а при возобновлении побеговъ - штрафъ велено было удвоивать. За ношение траура также приказано было взыскивать 25 р. штрафу и удвоивать при повторении.

...Много было взято лицъ подъ стражу въ разное время за участие въ мятеже; ими наполнены были все тюрьмы, но, къ сожалению, по большей части, ихъ дела не были окончены даже не начаты. О техъ же личностяхъ, кои были приговорены военными судами, не было постановлено конфирмаций, ибо опасались строгостью раздражить мятежниковъ.

Желая, напротивъ того, показать полякамъ, что правительство наше ихъ не страшится, я немедленно занялся разсмотрениемъ приговоровъ о более важныхъ преступникахъ; конфирмовалъ ихъ и немедленно приказалъ исполнить приговоры въ Вильне на торговой площади, въ самый полдень и съ оглашениемъ по всему городу съ барабаннымъ боемъ. Я началъ съ ксендзовъ, какъ главныхъ деятелей мятежа: разстреляны были два ксендза в течении недели. Поляки не верили, что я решусь на это; но когда увидели испол-нение сего на деле, а не на словахъ, всехъ ихъ обуялъ страхъ. Епископъ Красинский более другихъ испугался казни ксендзовъ. Онъ боялся за себя и за свой капитулъ, и когда я потребовалъ, чтобы онъ циркулярно предписалъ римско-католическому духовенству противодействовать мятежу, то онъ притворно сказался больнымъ и передалъ другому распоряжение консисториею. Для примера другимъ я отправилъ его съ жандармомъ въ Вятку. Въ числе лицъ, находившихся подъ стражею, былъ раненый, бывший капитанъ генеральнаго штаба Сераковский, командовавший самою большою шайкою въ Самогитии, уничтоженною командиромъ финляндскаго полка генер. Ганецкимъ; также дворянинъ Колышко, начальникъ другой значительной шайки.

Я приказалъ ускорить производимыя о нихъ дела и также конфирмовалъ – обоихъ повесить.

Эти четыре примера сильно подействовали на поляковъ, и они стали удостоверяться, что съ ними шутить не будутъ, и потому, по обычному польскому характеру, многие искали уже у насъ покровительства, те, которые накануне съ гордостию называли себя возстановителями польской отчизны и гонителями москалей и монголовъ!

...Принимая меры къ уничтожению повсюду скитавшихся мятежныхъ шаекъ, получавшихъ продовольствие и вооружение отъ самихъ владельцевъ, которые тайно и явно содействовали и покровительствовали мятежу, я скоро убедился, что однимъ оружиемъ не предстоитъ возможности подавить мятежъ.

...Я въ июне месяце 1863 г. обратился съ воззваниемъ вообще къ народу, объясняя поселянамъ всю безсмысленность мятежа и бедственныя онаго последствия, при чемъ обещалъ помилование всемъ простолюдинамъ, которые возвратятся восвояси съ отдачею оружия, независимо отъ сего, поручилъ всемъ сельскимъ обществамъ иметь ближайшее наблюдение за помещиками и управителями, и объ участвующихъ въ мятеже немедленно доводить до сведения начальства; съ темъ вместе приказано было заняться составлениемъ обывательскихъ книгъ и переписью всехъ сословий, принявъ строгия меры къ прекращению безпаспортныхъ отлучекъ лицъ всехъ сословий - и особенно ксендзовъ, облагая нарушающихъ преподанныя для сего правила значительнымъ штрафомъ; равнымъ образомъ подвергая контрибуциямъ техъ владельцевъ и вообще селения, которые давали приютъ мятежникамъ.

Мера эта имела самый благоприятный успехъ. Въ конце июля месяца уже многия тысячи народа оставили шайки и водворились на прежнемъ месте жительства; при этомъ начальники бандъ, не будучи въ состоянии противиться сему движению и распуская шайки, требовали, чтобы после покоса и уборки хлеба они вновь возвращались въ оныя, для чего зарывали бы оружие въ лесахъ для будущаго вооружения; вместе съ темъ мятежныя банды, по распоряжению жонда, разделились на мелкия шайки отъ 20-25 человекъ, расположились по всемъ уездамъ и лесамъ...

Надо было принять выходящия изъ обыкновеннаго разряда меры къ уничтожению сего страшнаго для края действия мятежниковъ - надо было уничтожить жандармовъ-вешателей и мелкия бродячия шайки, которыя находили еще приютъ у помещиковъ и ксендзовъ и получали продовольствие также изъ шляхетскихъ околицъ.

Оставалось мне одно последнее средство: приказать уничтожать до тла помещичьи мызы и шляхетския околицы, въ которыхъ произведены мятежниками неистовства и допущено водворение жандармовъ-вешателей; те же селения, которые наиболее участвовали въ мятеже, по надлежащемъ изследовании, переселять въ Сибирския губернии; техъ лицъ, которые составляли бродячия неистовыя шайки, при взятии, судить на месте военнымъ судомъ и тутъ же разстреливать; самыя же селения облагать огромными контрибуциями и на 10–15 верстъ весь околотокъ, допускавший заведомо пребывание разбойниковъ и не донесший о семъ ближайшимъ командамъ. Несколько подобныхъ примеровъ скоро положили преграду помянутымъ неистовствамъ мятежниковъ, ибо они, какъ и все содействующие имъ обыватели, увидели, что правительство не шутитъ и сильнее мятежа.

Все это, вместе исполненное, скоро побудило и дворянство во всехъ губернияхъ писать адресы о помиловании, ибо оно полагало, что симъ способомъ подписавшиеся, хотя, бы и замешанные въ мятежныхъ действияхъ, будутъ помилованы. Первый пример адреса подало Виленское дворянство 27-го июля 1863 г.: адресъ былъ представленъ мне губернскимъ предводителемъ, при несколькихъ депутатахъ, и былъ подписанъ более 200 лицами.

...Варшавское революционное правление, видевши ослабление мятежа въ Литве, еще съ июля месяца 1863 г. начало присылать своихъ агентовъ въ Вильну для поддержания упадающаго революционнаго движения, но все эти агенты, при довольно порядочно уже устроенной полиции, были захвачены въ Вильне; но они успели однакоже въ половине июля месяца сформировать команду тайныхъ кинжальщиковъ, которымъ вменено было въ обязанность убить ге-





 



Сяргей ПАНІЗЬНІК

# Не заснула ты, чуйнае сэрца

*Прысвячаецца Васілю Быкаву*

**1. Перасталі трубы грацъ...**

Трубілі трубачы ў Гародні.
Зноў нылі сцены. Грому быць.
І лепшым ваярам не жыць,
і не паліць свае паходні.

Было: трава – і тая нікла,
зары ўжо болей не відно...
Ірвы кіпелі. І на дно
сцякала кроў з ваўчыных іклаў.

На ўсё была свая прычына:
Пераставалі трубы грацъ –
варожая смялела рацъ
І меншала сыноў Айчыны.

**2. Да прылётнай абуднасці**

Чую, чую: у звыклай буднасці
трапяткое крыло... І верыцца
не заснула ты, чуйнае сэрца,
да прылётнай абуднасці.
Пад завеяй не затыхнулася,
не знямела яшчэ – і можаш
тою гулкаю быць Каложай,
што над Нёманам пахіснулася.
Вырай... Б'ецца крыло гарачае
аж пад сэрцам. І кроў пячэ.
А пад камень ляжачы
і вада не цячэ.

**3. Каб не ведаць нападу і згубы**

Дзень над Нёманам праз імглу
пачынаўся – вільготны, цёплы.
Самым ранкам на П'яным вуглу
сырадой прадавалі цёткі.
Закружылася галава:
выпіваю да меднага донца.
Як ваяцкая булава,
паднялося над горадам сонца.
І жыве абаронная рацъ,
звонка трубяць гарачыя трубы!
Каб не ведаць нападу і згубы
сцены гродзенскія стаяць.

**4. Сцяна. На парубежжы Вялікага Княства Ляснога**

Перада мной сцяна, але – лясная:
жывічная, дзе і кара разная...
перада мной учэпісты рубеж:
яго і бураломам не праб'еш.
Сцяна лясная - замкавае Крэва.





Яна чужынцаў стрэламі сустрэла!
Дзядзінец абарончы мой – сцяна:
і высіцца і шырыцца яна.
Карой шурпатай не адгарадзіцца
ад балцкага суседняга дзядзінца.
І я гукаю з моцнага лагва:
–Дзе Крывія? А-у! А-у, Літва!
Не ўзнік мой радавод на голым месце.
Раслі лясы на гістарычным цесце,
з якога ўся айчынная зямля:
пра гэта кажа летапіс камля!
Вунь пад сцяной, пад патаемнай
кронай,
стаіўся, нібы гетман абаронны -
даіндаеўрапейскі Вой стары:
мне крэсліць іерогліф на кары.
Куды б з ім ні пайшоў, сюды вярнуся –
на парубежжа: тут я з Беларусяй.
Яна стаіць за мной, перада мной.
... І я за Беларусь стаю сцяной.

**5. «Дажыць да світання»!**

Мая світальная істота –
асоба гордая, жывая...
Яна для Госпада – гаспода
маліцвенная, крыжавая.
Але чаму ж я, богакропля
у бласлаўлёным акіяне,
іду – Асветнікам – у кроквы,
іду ў падмуркі – акаяным?

Малекулаю чалавецтва
згараю на чужым капрызе...
Наверсе – водгулле ад бедства.
А кроў і боль са мной, унізе –
на самым дне людскога мора,
дзе я, часціначка Сусвету,
трымаю дыктатуру гора
усіх планетных прайдзісветаў.
І хай не цешацца ільдзінкі
на чорных астравах азлобы:
ствараю партыю – з Адзінкі,
гуртую грамаду – з Асобы, –
каб выйшла – светлаю! – істота
з-пад сутарэннага прыгнёту,
каб асабістая работа
душу бадзёрыла для ўзлёту
і для паходу. Хто ж народу
укажа торную дарогу?
Ва ўсе званы я б'ю трывогу:
– Асобы! У грамаду! На змогу!

*1978–2000*

**На здымках уверсе:**
**На Кургане Сяброўства (мяжа Беларусі і Латвіі). 1984 г.**
**Васіль Быкаў. Гродна, 1964 г.**
**Фота Сяргея Панізьніка**



**Каля гарадзенскіх муроў: Васіль Быкаў, Сяргей Панізьнік, Данута Бічэль. 1969 г. Архіў С. Панізьніка.**

нералъ-губернатора, губернскаго предводителя дворянства и техъ, которые наиболее противодействовали мятежу; но кинжальщики эти, страха ради, ни на что не решились...

Для решительнаго действия былъ, наконецъ, присланъ изъ Варшавы известный полициантъ-вешатель Беньковский, съ обязанностию убить Домейко и меня.

29-го июля (черезъ два дня после представления адреса) онъ, въ 9 часовъ утра, вошелъ въ квартиру Домейки и нанесъ ему семь ранъ кинжаломъ, равнымъ образомъ изранилъ и человека, пришедшаго на помощь, а самъ скрылся. Раны Домейки были сильны, но не опасны. Жондъ публиковалъ по городу, что Домейко убитъ и наказанъ за измену польскому делу; а въ особенности за составление адреса.

...Вследъ за кинжальщиками, были взяты въ Вильне прочие революционные деятели, какъ-то: Далевский, Гажичъ, Дормаловский (прибывший изъ Познани) и Здановичъ, которые, по приговору военнаго суда, все (кроме Гажича) были казнены.

Оставался въ Вильне одинъ бодрствующий, некто Калиновский, въ качестве главнаго начальника жонда Литовскаго, но скрывавшагося подъ фальшивымъ именемъ Витольда Витоженца, и съ нимъ еще несколько второстепенныхъ лицъ, которыя тоже были взяты по обнаруженным сношениямъ ихъ съ минскими и ковенскими революционерами. Такъ что уже въ конце августа месяца главные деятели мятежа были обнаружены и взяты кроме Калиновскаго. Въ Ковне и Гродне также успешно подвигалось открытие мятежной организации, все тюрьмы были наполнены арестантами и обнаружена была связь между губерниями и Царствомъ Польскимъ, при чемъ открывались мятежные связи и съ польскими агентами въ России. Одна оставалась Минская губерния, какъ будто въ затишьи...

Надо заметить, что Минское дворянство отличалось большимъ нерасположениемъ къ русскому правительству, чемъ дворянство прочихъ губерний; оно постоянно было въ сношенияхъ съ дворянствомъ юго-западныхъ губерний, и въ октябре 1862 г. на дво-рянскихъ выборахъ составило протоколъ для представления всеподданейшаго адреса, по примеру Подольской губернии, о присоединении Минской губернии къ Царству Польскому; ихъ дерзость была такъ велика, что когда имъ было тогда же объявлено высочайшее повеление о противозаконности подобныхъ действий, то они, не отменяя своего постановления, записали только оное въ журналъ, съ отметкою, что они не привели его въ исполнение вследствие воспрещения высшаго правительства.

Крамольный этотъ духъ Минскаго дворянства еще более развился во время вооруженнаго мятежа въ 1863 г.; но они не могли вооружить столько шаекъ, какъ въ другихъ губернияхъ, по причине меньшаго числа шляхетскихъ околицъ и потому что большая часть населения губернии - православнаго исповедания; но тем не менее во всехъ лесахъ, где только было возможно, а особенно въ Борисовскомъ и въ Игуменскомъ уездахъ, были значительные шайки. Шайки же Новогрудскаго и Слуцкаго уездовъ соединились съ таковыми же Гродненской губернии.

Справившись съ открытиемъ тайной крамолы въ Литовскихъ губернияхъ, я послалъ особую следственную комиссию въ Минскъ для обнаружения секретной администрации; въ скоромъ времени председатель оной, жандармский полковникъ Лосевъ, обнаружилъ главныхъ деятелей мятежа въ Минской губернии и ихъ сношения съ прочими губерниями, преимущественно съ Виленской; такимъ образомъ окончательно были взяты оставшиеся Виленские революционеры и въ томъ числе Калиновский, главный распорядитель мятежа въ Литве. Съ уничтожениемъ ихъ прекратились и все мятежные покушения.

18 сакавіка 2004 г.
у Доме літаратараў (вул. Фрунзэ, 5, вялікая заля)
адбудзецца творчая вечарына

**Андрэя Хадановіча**
**«Бабілёнскі праект»**
У рамах імпрэзы – новыя вершы, песні й пераклады,
а таксама прэзэнтацыя кнігі
**«Лісты з-пад коўдры»**
Чакаюцца
**Валянцін Акудовіч, Уладзімер Арлоў, Зьміцер Бартосік,**
**Серж Мінскевіч, Джэці й Віктар Жыбуль,**
**Алесь Пушкін і ягоны ПЭРФОРМАНС,**
а таксама гледачы, слухачы
дый іншыя прыемныя сюрпрызы.
Пачатак а 18.30. Уваход вольны.

 

# Грабянецкая школа – 140

**Закон Божы, чытанне, пісьмо, звесткі па арыфметыцы – гэта ўсё, што маглі ведаць і ўмець вучні пачатковых земскіх школ. Земскія народныя школы былі адкрыты ў царскай Расіі пасля прыняцця «Палажэння пра пачатковыя народныя навучальні» (1864). На Беларусі, яшчэ цалкам не суцішанай пасля апошняга паўстання, дзейнічалі «Часовыя правілы для народных школаў». Мэта школьнай рэформы заключалася ў стварэнні ўсесаслоўнай адукацыі. На Беларусі ж стварэнне школы для дзяцей сялян – адзін са шляхоў хуткай асіміляцыі і прафілактыкі бунтарскіх настрояў.**
**На тэрыторыі Ігуменскага павета тады пачалі сваю працу шэсць школ. Адна з іх, сённяшняя Грабянецкая, за тым часам Ачыжская, вырашыла адсвяткаваць сваё нараджэнне – 140 гадоў. Што і стала падставай гэтага інтэрв'ю.**

З 1981года дырэктарам Грабянецкай школы працуе Кісель Аляксандр Мікалаевіч. Ён першы мой суразмоўца.

**– Што сабой уяўляе сёння Грабянецкая школа?**

– У Грабянецкую сярэднюю школу-сад, а менавіта так яна зараз завецца, дзеці з'язджаюцца з шасці, калі не лічыць сам Грабянец, навакольных вёсак – усяго 118 вучняў і 13 выхаванцаў. Самым вялікім класам з'яўляецца шосты – 15 вучняў. Самым маленькім – адзінаццаты, усяго 5 чалавек. Жыццё школы забяспечвае 41 чалавек. Педагогаў разам з выхавацелямі – 21 чалавек. З васемнаццаці прадметнікаў шаснаццаць маюць вышэйшую адукацыю, двое – сярэднюю спецыяльную. Тры настаўнікі нашай школы заслужылі вышэйшую катэгорыю. Школа займаецца па сістэме дванаццацігадовага навучання. У 2011 годзе будзе першы выпуск дванаццацікласнікаў (сёння пяты клас). Як і ў большасці вясковых школ, мовай навучання з'яўляецца беларуская. Наша школа мае патрыятычны накірунак выхавання. Маем свой краязнаўчы музей, дзе працуюць вучні з гісторыка-краязнаўчага гуртка. Да нас з усяго раёна едуць па вопыт.

**– Яно то так. Але вось колькі разоў заўважала, што, выязджаючы за межы вёскі, гэтая моладзь, як і тая, што не ўдзельнічала ў гісторыка-краязнаўчым гуртку, забываецца на сваё патрыятычнае пачуццё ў адносінах да роднай мовы... Але гэта тэма наступнай размовы. Маё ж пытанне палягае ў іншай плоскасці. Далучэнне да агульнаадукацыйнай школы дзіцячага сада – вопыт не новы: яшчэ ў 1998 такіх школ было 256. Сёння ў краіне іх 413. Чым Вы патлумачыце прычыны паяднання гэтых раней амаль аўтаномных устаноў?**

– Эканамічныя сродкі, якіх не хапае, каб аплаціць камунальныя паслугі ў адукацыйных установах, – першая прычына. Другая – паляпшэнне ажыццяўлення пераемнасці навучання і выхавання на этапе «дзіцячы садок-школа».

У нашым выпадку дадзеная мера была вымушанай: памяшканне дзіцячага садка ў 2003 годзе запатрабавала капітальнага рамонту. А будынак школы, разлічаны на 392 вучні, можа «прытуліць» і дашкольнікаў. Дзіцячы садок, такім чынам, эканоміць на электраэнергіі, ацяпленні і г.д.

**– Маладыя кадры да вёскі не даязджаюць. Жыллём школа (маю на ўвазе не інтэрнат) не ў стане забяспечыць. Аклад дырэктара вясковай школы разам з усімі надбаўкамі ў мінулым месяцы складаў 179.223 руб., маладога спецыяліста – трошкі больш за 100 тысяч, тэхнічкі і качагара – 70–80 тысяч. Унясіце элемент навізны: калі ласка, акрэсліце не згаданыя мной «класічныя» праблемы.**

– На маю думку, астатнія 90% праблемаў знойдуць сваё вырашэнне, калі ў нашых школах з'явіцца неабходная аргтэхніка. Прыклад, каб адксерыць адну паперку, мне трэба ехаць у раён. А гэта добры кавалак, на жаль, не толькі часу. Або камп'ютэр. Сёння нават самая маленькая фірма не можа без яго, школа ж вымушана абыходзіцца. Дарэчы, на ўроках інфарматыкі нашы школьнікі вучацца яшчэ на «старажытных» Карветах.

**– На Беларусі працуюць тры тыпы агульнаадукацыйных школ: з беларускай мовай (19,6% вучняў), з рускай (47,6%) і аднačасова з дзвюма мовамі навучання (32,7%). Ці ёсць свае, спецыфічныя, праблемы ў школах з беларускай мовай навучання?**

– Ёсць такая праблема. Неадпаведнасць мовы метадычных выданняў мове навучання ў нашых школах. Дыдактычны і раздатачны матэрыял па многіх прадметах прыходзіць да нас на рускай мове. Вучням, якія вучацца па падручніку на беларускай мове, слухаюць тлумачэнне настаўніка таксама па-беларуску, складана карыстацца прапанаванымі матэрыяламі, а часцей за ўсё мы нават не можам іх прымяніць. Атрымліваецца, што калі выпускаюць метадычныя выданні, улічваюць не колькасць школ (напрыклад, у Чэрвеньскім раёне школ з рускай мовай навучання не больш за тры), а колькасць вучняў у згаданых тыпах школ. Дарэчы, тое ж праграмнае забеспячэнне камп'ютэраў таксама маем на рускай мове.

**– Цягам апошніх гадоў адбываецца рэфармаванне школы: дзесяцібалаьная сістэма ацэньвання, пяцідзёнка, дванаццацігадовае навучанне і г. д. Як успрымае вясковая школа гэтыя і іншыя наваўводзіны?**

– Мэтай вызвалення шостага дня і пераходу на навучальную пяцідзёнку было разгрузіць вучня. Праграмы ж па прадметах амаль не скараціліся. У выніку – нагрузка на звычайны навучальны дзень павялічылася: колькасць урокаў, напружанне і шчыльнасць матэрыялу на іх узрасла. Такім чынам, мы дасягнулі супрацьлеглага эфекту. У гэты шосты дзень вельмі складана прыходзіцца тым дзецям, што жывуць не ў нашай вёсцы, яны «прывязаны» да раскладу руху аўтобуса. Яшчэ больш складана арганізаваць пазакласную работу, выкарыстаць у поўнай меры гадзіны школьнага кампанента.

**– Пяць вучняў у класе, дзесяць... Я памятаю часы, калі ў адзінаццатым класе нашай школы вучылася ўсяго два чалавекі. Сёння амаль ва ўсіх вясковых школах штучна створаны рэпетытарскія ўмовы. Але чаму тады ўзровень падрыхтоўкі вясковых выпускнікоў амаль заўсёды ніжэйшы? А ў звязку з гэтым, чаму некаторыя грабянецкія школьнікі ведаў шукаюць не ў роднай школе, а ў Чэрвеньскай?**

– Так, частка нашых дзяцей займаецца ў Чэрвеньскай гімназіі. І мы «за». Там лепшая вучэбнаматэрыяльная база і лепшыя кадры. А тым, што з Майзарова ездзяць у звычайныя школы Чэрвеня, як мне здаецца, вялікай розніцы няма туды ці сюды: аднолькавы кіламетраж.

**– Які працэнт вашых выпускнікоў паступае ў ВНУ?**

– З шасці выпускнікоў летась у ВНУ паступіла двое. А гэта значыць, што працэнт прыходзіцца роўным сярэдняму па краіне.

**– Заўсёднай асаблівасцю вясковай школы была і будзе яе гаспадарка: магчымасць гарод пасадзіць, у садзе яблык падабраць... Ці справядліва сказаць, што вясковая школа корміць сябе?**

– Так, уся гародніна ў патрэбным аб'ёме ў нас свая. У магазіне купляем толькі мясныя і макаронныя вырабы. Раней мясам дапамагаў саўгас, зараз бясплатна забяспечвае школу толькі малаком і бульбай. Усе 100% дзяцей харчуюцца за семсот рублёў – гэта выдаткі дзяржавы на абед. Тыя, што даплочваюць (усяго 250–300 руб.), харчуюцца па два разы. Пры ўраджайным годзе на яблыкі маем вялікае папаўненне школьнага рахунку, які ў далейшым выкарыстоўваецца для патрэб школы.



Роўна пяцьдзесят гадоў назад настаўніцай пачатковых класаў у Грабянецкую школу прыйшла Мацеша Браніслава Францаўна. Але і сёння гэты чалавек тут не госць. Браніслава Францаўна займаецца з малодшымі школьнікамі ў гуртку ручной працы «Верасок». Чалавеку, для якога паўстагоддзя ўласнага жыцця і паўстагоддзе школы ёсць адным непадзельным, я не магла не задаць наступных пытанняў.

**– Якія часы былі самымі складанымі для Грабянецкай школы?**

– 1950–тыя гады. Тады будынак школы яшчэ не быў скончаны: дзе-нідзе мох на сценах. Такая халадэча стаяла, што нават чарніла (яшчэ не пісалі шарыкавымі асадкамі) замярзала. Тады і настаўніку цяжэй было працаваць. Па-першае, класы вялікія, па сорак і больш чалавек. Па-другое, усе: і настаўнікі, і вучні – былі больш чым зараз загружаны грамадскай працай. Дарэчы, тады мы па некалькі разоў на год (што цяпер рэдкасць) вывозілі свае класы ў цырк і тэатр. Ці дух таго часу, ці уласная маладосць, але ў пяцідзесятых і пазней мы з кожным годам адчувалі, што мы самі і наша жыццё становіцца лепшым. Гэта быў перыяд вялікага аптымізму, нягледзячы на жахлівыя ўмовы, у якіх жылі.

**– Не аднойчы я сутыкалася з меркаваннем, што сённяшнія вучні больш лянівыя, жорсткія, менш паважлівыя...**

– Гэта няпраўда. Вучні абсалютна не змяніліся. Яны такія ж, якімі былі іх бацькі.

А вось якая размова завязалася ў мяне з сямікласнікамі (нумарамі пазначаны тыя, хто захацеў застацца інкогніта).

**– Калі б была магчымасць, памянялі б вясковую, Грабянецкую, школу на гарадскую, Чэрвеньскую?**

**Першы.** Не.

**– Чаму?**

– Па-першае, мне падабаецца ў школу хадзіць пешшу. Па-другое, там было б нязвыкла: вялікая школа, шмат дзяцей, там мала хто каго ведае, а тут мы ўсе, і малыя, і вялікія, як адна сям'я.

**Іна Дзмітровіч.** А вясковыя дзеці нашы-дабрэйшыя і працейшыя. Якраз гэта і ёсць асноўныя плюсы вясковай школы.

**– А мінусы?**

– **Іна Дзмітровіч.** У нас няма таго, што ёсць там: у гарадскіх школах больш сучасныя спосабы навучання і больш магчымасцей стаць разумным, а да таго ж яшчэ і сучасным чалавекам.

**– Што трэба змяніць у школьным навучанні, каб спасцігаць новае стала цікавей?**

**Першы.** Я б нічога не змяняў: вучоба ў вёсцы і так цікавая.

**Другі.** Я б у расклад дадаў урокаў па беларускай мове і літаратуры.

**Трэці.** На ўроках хіміі і фізікі трэба праводзіць кожны ўрок доследы. На ўроку інфарматыкі ўсё павінны вывучаць не па кнігах, а па камп'ютэрах.

**Аляксандр Былынка**. Я думаю, што ўрокі павінны быць больш складанымі і больш за сорак пяць хвілінаў асабліва ў старэйшых класах.

**Алёна Шчакала**. Мне здаецца, што настаўнікам трэба цікавей праводзіць урокі. Магчыма, пашукаць нейкіх новых узораў, бо вучням не вельмі падабаецца, калі ўсе ўрокі праводзяцца аднолькава.

**Аляксандр Былынка**. Так, на ўроках, можна слухаць і касеты па тэме, напрыклад, размову двух прафесараў па дадзенай тэме.

**Алёна Шчакала**. І яшчэ мне хацелася б, каб вярнулі пяцібальную сістэму.

**А. Пархомчык**. Мне не падабаецца расклад урокаў. Трэба, каб кожны дзень пасля ўрокаў працавалі спартыўныя гурткі, у якіх можна было б пагуляць і адпачыць ад заняткаў.

**– Якой у будучым стане наша школа?**

**Трэці**. У будучым усе будуць сядзець дома і вучыцца праз інтэрнэт.

**Алёна Шчакала**. Наша школа, канешне, стане першай у раёне, а, магчыма, і ў вобласці.

**Іна Дзмітровіч.** Вялікай і прыгожай, з нармальнай адукацыяй. Наогул, я хацела б, каб дзеці хадзілі ў школу не таму, што трэба, а таму, што там цікава, утульна, як дома, і весела.

**Алег Шчакала.** Я лічу, што нашу школу закрыюць: з кожным годам у школе становіцца менш вучняў. Але я гэтага не хачу. Бо калі вырасту, мне хочацца прыходзіць сюды і ўзгадваць сваё дзяцінства.

**А. Пархомчык.** Каб школу не закрылі, трэба каб людзі лічылі сваю Радзіму самай лепшай і прыгожай і не з'язджалі жыць у горад.

**Гутарыла**
**Алеся МАТУСЕВІЧ**

Максім ГАРЭЦКІ

# Асілак

## (Легенда з часоў паншчыны)

I

Агарнула ночка калядная цьмою крамешнаю ды муцьцю сьнежнаю зямельку ціхую, у безпатольнай нудзе ад сьцюжы застыглую. У безьбярэжным полі сьнегавым мятусяцца хохлікі, круцяцца. Званчэй звоняць палазы ад марозу лютага. Пякучым ветрам аж заціна дыханьне. Едзе Васіль з канторы панскае. Вазіў тудой бабскія зрушнікі кужэльнага прадзева. Пад'язджае к хатам сваім. Блізка ўжо: сярод шэрае дзяругі сьвятло ў ваконцы блiснула. Аж раптам зачапілі вочы ў сумёце касым, што вышэй за плятнеў намяло, зачапілі нешта цёмнае: постаць чорная з кастылём і з хатомкаю. – «Добры вечар!» – гукнуў Васіль. – «Добрае здароўе чалавеку добраму» – з натугаю адказуе вуснамі няслухмянымі, акалелымі. Прыстоіў Васіль і запрашае падарожніка на ноч к сабе. У санкі пасадзіў, прывёз дамоў ці-то папа растрыжанага, ці-то старца пісьменнага. Падала Ганна Васіліха страву на стол, прыняла гасьця чым хата багата. Павячэралі, разгаманіліся. І казаў манах, што йдзець ён з Афонскае гары, што даўно ходзіць па Краю Забранаму і бачыць, як катуюць падданых людзей, як з іх знушчаюцца. І хоча памагчы народу бяздольнаму, чакае толькі на Божы наказ. Старыя ж яго слухаюць, дзівуюцца. А той паглядзеў наўкол, у іх пытаецца: «Удвох вы толькі. А дзеткі вашыя дзе?» І сказаў яму Васіль пра гора сваё. Ня было дзяцей у іх. Вялікую чарнату-кручыну мелі на сэрцы і прасілі ў таго, што сьвет яго, даваць ім хоць сыночка адзінага. На сьвечы к машчам у Кіеў пасылалі. Астатні кавалачак сала старцом аддавалі. Шэсьць месяцаў, па начох, пасьля труду прыгоннага, выразаў Васіль з дубу карэлага запрастольны крыж у царкву сваю. А дзетак – як няма, дык няма. А ўжо сівеюць валасы і пасьля працы ломіць сярэдзіна. Сядзіць, бывала, Васіль з Ганнаю сьвятым вечарам у хаце пустой з звонамі-бомамі маркотнай цішы. Спамінаець, думае: «За што, за якое, божухна?» У маленстве п'янога бацьку з вялікае крыўды цяжка зьняважыў. У маладосьці было: сусед з дробнымі дзеткамі ў нагах валяўся, полы цалаваў, прасіў-маліў добрых людцаў, каб хто за яго пану аб'явіўся дабрахоць на жаўнерства, на дваццаць пяць год лямкі вайсковае; не паслухаў Васіль, сірот не ўратаваў, бо сваім шчасьцем даражыў. Ато яшчэ з панскага поля, з прыгону, уцякаў. Калі войту ехаць, з мосту ўночы дашку-палавіцу выкінуў: войтаў конь нагу зламіў, абязьвечыўся і на бойню пад даўбнёю пайшоў. Аднэй дзеўцы вачмі радасьць падаваў, а к другой у сваты гэтым часам рыхтаваўся. У вялікі пост наскароміўся, у дарогу езьдзіўшы. На суседа меў злабу вялікую. Аб багацці залішне дбаў. – «Завошта ж, а божухна?» Тужліва на хаце аглядаўся Васіль. Вось і багацейшы ён за другіх, а нашто яму тое багацце вялікае, калі пахаваць, як памруць старыя, і то ня будзе каму. Пашто яно, калі і вочы зачыняць у труне людзі ня блізкія, а цяпера вось нудна ў хаце, ня тупаюць ножкі маладзенькія, няма да каго з ласкаю падыйці. За ўсё жыцьцё ня чуў на шыі ручачак дзяціных абшчэпленых... Паслухаў, памаўчаў манах. – «Калі бярэце, – кажа, – адказ на сябе, дам я раду вам». У Васіля аж сэрца затукала, а Ганна ў ладкі з радосьці плёснула. – «Бяром адказ», – кажуць яны падарожніку. Дастаў тады манах з свае торбачкі нейкія вуземыкі, вывязаў з іх рознае заморскае дзіватворнае зельле пахнючае, патрушчыў яго, сьцёр у пыл, у галачкі з хлебам паўкачаў і даець старым: «Дванаццаць дзень, рана і вечара зьядайце па аднэй галачцы. І ўвесь час жывіцеся хлебам з солею і вадою крынічнаю. На трынаццаты ж дзень постуйце да першай зорачкі, а парыхтуйце ўсялякай, самай лепшай, што толькі маеце, яды і мяса добра паперчыце. І наежцеся ўдосыцьце. А потым спаць кладзіцеся і моцна веруйце, спадзявайцеся, што споўніце спрадвечны загад людскому роду, загад пладзіцца і множыцца». З салодкай жудасьцю яны слухалі і ўзялі галачкі. А на раньне, ціхае і сьнегам серабрыстае, усклаў старац на сябе вярыгі свае, апрануўся, разьвітаўся, пераксьціўся колькі раз з уважнасьцю і пайшоў па скрыпучай вуліцы, кійком па крамянаму сьнегу папіраючысь, чорненькі сярод бялеючага вокала і з хатыльком на пахілых плячох.

I

Лета, сьпякота, млось. Пад сонейкам палючым людцы на полі панскім, як мурашкі, поўзаюць. А ўвечары, па дарозе цёмнай – гоман позны, косы, сярпы бразкаюць. Прыдуць людцы дамоў, з духу выб'юцца, сядуць разувацца на калодачцы, – ножухны бедныя гудуць, гудуць. І ўстаці ня хочацца. Сядзеў бы так без канца ў зьняможнасьці. Цяжэнька даводзіцца Васілю. Стар стаў, а прыгон жа ня зьменшыўся, адбывай яго, як і даўней з мaладою сілаю. Упала на сілу і Ганна яго, аслабела, рукі, ногі млець пачалі. Сама – як папера, белая. То ёй селядца да сьмерці пабажаецца, то гуркоў сольных хоць спад зямлі дабудзь, а дай. І ў рабоце з яе ўжо памошніца невялікая. Бывала, да сонейка печ заслонкаю пасьпее зачыніць. Цалюткі дзень на прыгоне, аж да зоркі, ваюецца, а дамоў ідзець, Васіля бадрыць: «Пойдзем шыбчэй, мой ты любенькі! – гэтак кажаць яму. – За вячэраю адпачнем ды на сваё ляда зьбегаем. Пакуль сон ня зморыць абугоньку абматыжым, лянку пасеем». Во якая была. – «Ат, хапіць таго лёну, – дражніць Васіль, – не вялікая патрэба ў ім». Глыбака ўздыхнець яна: «А праўда,



Васілёк, твая: не вялікая патрэба, калі няма для каго сарочкі шыць. Каб то былі дзетухны»... Бывала, ад Вялікадня да Спаса хлеб такі, што ў рукі возьмеш – увесь чыста крышыцца, сам разваліцца; бо ня столькі ў ім мукі, колькі грубае кары бярозавай, сушанай, кашкі ды лебяды. А ў Спасаўкі хлебам такім ды цыбулькаю з квасам аб увесь дзень і мадзелі без адДыхі працуючы. А цяпер з прыгону ледзьва к поўначы так-сяк прыдабаець. І яды сабе не дабярэць; то ёй кваснага, то салодкага. Ды ўсё тое нічога! Весяліцца Васіль радасьцю вялікаю: «Дало рады зельле дзедава». – «Ах, дай ты, матка навышняя! Толькі цяжанька мне, мой сівы галубок, у старых гадох уцяжку хадзіць», – так жаліцца Ганна мужыку свайму. На Спаса ў мясьцечку іхным вялікі торг. Зьязджаюцца людзі на кірмаш з павету цэлага. Цыганы з конямі панаедуць, хто іх ведае, з якога боку далёкага; кажуць, нібыто ажно з Аўстрыяцкай зямлі. Надвечар перад Спасам сьвятым, як людцы з прыгона прыбегшы, у лазьні парылісь, сямёхдзённы пот змывалі, чорныя сарочкі на белыя мянялі, дык у гэты час ехалі цыганы нейкія. Закутала Ганна статак свой, карову пацыркала, стол памыла, павучыньне дзе-троху з большага паскінула і выйшла на вуліцу шыбы ў вакне чыстай ганчырачкай праціраць. Васіля з лазьні чакала. Аж тут зьдзівілася: вядуць два цыганы старога бацьку цыганскага падпашкі, а ў таго й ногі ня служаць, плятухаюцца. Сьледам старая цыганка йдзець і вочы ражком стрыкатае махрыстае хвусткі безперастанку трэць. Падыйшлі да Ганны. Бах! Кінулася ў ногі цыганіха: «Бабанька родная! Сястрыца мая, панюхна, золатца! Па ўсёй ваколіцы аб табе слава слаўная. Дык пусьці ж ты, зорухна, зьмілуйся, дзеда майго ў хату сваю, занядужаў ён у дарозе, мой татанька»... Троху быццам Ганна спужалася, але той час агоўталась: «Заначаваць? А чаму-ж, – кажа, – можна сабе». – «А хай табе Бог аддасьць за тваю ласку, рыбулька мая! – лавіла цыганка рукі Ганьніны, цалаваць ці варажыць – хто яе ведае, званіла маністамі і ўсё цёрла хвусткаю вочы чырвоныя. – Хай цябе нагрaдзіць сіла анельская, хай табе багародзіца пашлець сына шчасьлівага... Паначаваць, мая галубачка, а калі хадзяін твой дасьць дазвол, дык ня турыце ад сябе майго татаньку, пакуліцька з торгу не пакажамся». Увялі хворага ў хату, паклалі на лаўку яго. – «Ой, канаць рыхтуецца мой татанька», – галасіла цыганка расхрыстаная, а маладыя цыганы стаялі, моўчкі ўтупілісь, спусьцілі прад сабою рукі і зрэдку шапкамі варушылі. Стары цыган, ускалмачаны, з вусмі даўжэннымі, жоўтымі пад дзюбатым насом з гарбінаю, круціў белкамі ды хрыпеў і вадзіў рукамі, як граблямі, па голых, валасатых грудзёх. – «Ідзі... Гэць! – махнуў ён на жонку, – ня выгурыць гаспадар мяне». Ня ведала Васіліха, што сказаць. Цыганка ж , стогнучы і падбіраючы махры, папляласяся з хаты з тымі маладымі. – «Гы, гы, – хрыпеў цыган, – ня турыце, гаспадынька, мяне, бо сама ведаеш долю падданую. Паваражу табе, усю праўду скажу табе. Ня так, як нашыя бабы, не зманю. Я шмат чаго ведаю»... Так і застаўся ён. Прышоў Васіль, пашкадаваў хворага. Ганна ў лазьню схадзіла. Павячэралі. Паднясла латушку цыгану; сербануў лыжкі з тры. Спаць паклаліся. Цыркуны ў цёплым запеччу зацыркалі. А нараніцы хворы троху ачуняў. Пакуль Ганна ў царкве была, раззюкаўся з Васілём. Устаў з лаўкі, на парозе здолеў сесьці пад вольным ветрыкам. – «Добрая гаспадынька ў цябе, татанька мой, – казаў так Васілю. – Добрая і турботная. Бо і ёсьць клапаціцца аб чым. Вось сына радзіць будзе, мукі будуць». – «Сына? – зьдзівіўся Васіль, – хто ведае?» – «О, татанька мой, – крутнуў цыган жоўтыя бялкі з-пад калматых броў. – Шмат чаго наўкол нас творыцца, што можна ведаць, ды ня кожны ведае. Паваражыць, гаспадар, табе? Ай, можа, ня важышся? Праўду бо шчырую скажу. І добрае, і злое скажу, – як баішся, то ня трэба варажыць». Падаў яму дрыжачую руку Васіль. – «Вось... Шмат тужыў ты на вяку сваім, братка мой, – забубнеў цыган, пацыганску, як гарох, словы сыплячы, – а яшчэ ня ўсю ты чарнату перабыў, татанька мой, і ўсё за дзетак. Ды пасьля аб гэтым. Рана ты сіратою застаўся. Добры ты чалавек. Сьціплы, гарэлкі ў рот не бярэш, ня курыш ты. А вось быў у цябе з паўгода назад адзін стары чалавек, богаў пасланец, раду важную даў табе. Родзіцца твой сын, калі ўдаму ня будзеш ты, не пры табе ён радзіцца. Калі... ох, нязвычайнае дзіцятка будзе. Сілы непамернай. Як вырасьце, дык ні зьвер яго не зачэпіць, ані куля яго не возьмець, ані людзі сваёю сілаю ня сходаюць, бо яго сіла будзе нялюдзкая. Што захоча, тое зробіць. Не захоча прыгон служыць, – ня будзе, і ніхто не зацеіць яго. У яго волі скалануць увесь сьвет. Зможаць і народ з няволі вызваліць і паншчыну зьнічтожыць навекі-вечныя. Толькі... відзіш? Ірвецца лінія. Калі пражывець першую гадзіну – выжыве, а не – значыцца, сьмерць яго. З дзіва ён панесены маткаю, за маленьні зьняважаных, пакрыўджаных»... – «Ух!» – глыбака ўздыхнуў Васіль, потам аблiўшыся. – «А жонцы аб гэтай варажбе ты, чалавеча, лепей не кажы. Бо ад маткі выходзіць дзіцёначку любоў вялікая і бяда вялікая. Ад яе і нейкай яшчэ жанчыны старой. А сам ты неўзабаве пакараны будзеш за ня свой, а за нечы грэх чужы». – «Няго абсякуць?»

III

Хоўра-бабылка на самым краю жыла, ля аселіцы. Нядужа прыгон служыць, а радня паўмірала ўся, дык старая, бязродная бавіла дух у целе міласьцінкаю з ласкі добрых людзёў.

Працяг на стар. 8

## Забыты твор Максіма Гарэцкага

Апавяданне М.Гарэцкага «Асілак» было напісана 23 — 24 лістапада 1916 г. у Гжацку. У яго сюжэтнай аснове – паданне. Першы раз апублікавана ў газеце «Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов» (1918, 18 студз.) на расійскай мове пад назвай «Легенда о богатыре» пад псеўданімам Дед Кузьма; па-беларуску ж – праз колькі год, у Вільні, у часопісе «Незалежная думка» (1920, 8, 13, 20 чэрв.).

Доўгі час яно, такім чынам, заставалася недаступным для шырокага кола чытачоў, аматараў творчасці класіка беларускай літаратуры, бо ў выданні Гарэцкі М. Збор твораў: У 4-х т., Мн., 1984 – 1986 яно адсутнічае, таксама, як і ў іншых выданнях твораў М.Гарэцкага. Апавяданне знікла з увагі шмат якіх даследчыкаў, хаця пэўныя звесткі пра яго можна знайсці, напрыклад, у манаграфіі Дз.Бугаёва «Максім Гарэцкі» (Мн., 1968; 2-е выд. – Мн., 2003). Па ўсёй відавочнасці «Асілак» у савецкай Беларусі пасля смерці аўтара не публікаваўся па цэнзурных прычынах: у сюжэце твора – цыганскае прадказанне, якое збываецца, цуд, утвораны Богам, наогул рэлігійны падтэкст, што не сумяшчальна з камуністычнай ідэалогіяй. У часы перабудовы яго публікацыя ў дадатковым томе да збору твораў, думаецца, была магчымая. Але, верагодна, яно было выпадкова прапушчанае, хаця ў «Летапісе жыцця і творчасці», складзеным Т.Дасаевай і змешчаным у зборы твораў, «Асілак» («Легенда о богатыре») называецца, згадваецца яно і ў каментары да першага тома. Магчыма, што ў архіве М.Гарэцкага, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Бібліятэкі НАН імя Якуба Коласа, можна знайсці адказы на некаторыя пытанні, звязаныя з гісторыяй стварэння твора, яго дзвюх публікацыяў пры жыцці аўтара, рукапіс (або машынапіс), а тады, можа, нават і чарнавыя варыянты апавядання. Але зараз да гэтага фонду мае доступ невялікае кола навукоўцаў, што не спрыяе дакладнасці даследаванняў.

Усведамляючы маладаступнасць ці наогул недаступнасць для большасці прыхільнікаў творчасці М.Гарэцкага апавядання «Асілак», мы змяшчаем яго на старонках газеты. Тэкст друкуецца паводле вышэйзгаданай публікацыі ў «Незалежнай думцы».

**Публікацыя**
**Генадзя КАЖАМЯКІНА**

# Раман і Джульета

Уладзімір СЕЛІЦКІ

### Сучасны сюжэт

Раман Нікадзімыч, па мянушцы Нікаціныч (за вялікую схільнасць да палення) пайшоў на адпачынак цераз сем гадоў пасля выхаду на пенсію. Працаваў ён усё жыццё чарцёжнікам і быў, трэба сказаць, чалавекам далёка не бязглуздым, наадварот, так бы мовіць, мыслячым. Рэгулярна купляў газеты, слухаў радыё, глядзеў ТБ, вельмі любіў, як кажуць, пагутарыць з такім жа, як і ён, мыслячым суразмоўцам. А пайшоў з працы таму, што стаў пакутваць на радыкуліт.

Аднойчы зайшоў да яго сусед, студэнт Стасік, вясёлы такі хлопец, і прэзентаваў яму, як у той песні, білет на балет, таму што сам быў чымсьці заняты. Тым болей, што білет ён атрымаў «за дзякуй», выйграў у перадачы па радыё. Нікаціначу, шчыра сказаць, з-за сваёй спіны ісці на балет не хацелася, але ён перамог сябе, апрануўся ў выхадны касцюм і пацягнуўся ў тэатр.

У той вечар паказвалі «Рамэо і Джульету» Пракоф'ева. «Рамэо – амаль, як Раман», – думаў Нікаціныч, уваходзячы ў вялікую залю і займаючы сваё месца. «Толькі Джульеты не хапае», – глянуў ён на пустое месца побач. І, як бы ў казцы, цераз момант яна з'явілася. Адразу было відаць – пенсіянерка, але такая прыстойная, што выглядала як быццам нейкая фрэйліна. «Прабачце», – сказала яна, выпадкова дакрануўшыся да яго нагою. Раман трывожна заварушыўся. «Калі ласка», – адказаў ён... Знаёмства адбылося...

У перапынку ён, вельмі здзіўлены касмічнымі коштамі ў буфеце, усё ж набыў маленькую бутэльку «Фанты», і яны з асалодаю яе выпілі... Накаціныч, чалавек назіральны, звярнуў увагу на дзве асаблівасці новай знаёмай. Яна ўвесь час як бы падкрэслівала сваю інтэлігентнасць і размаўляла – зноў жа, увесь час – хутка, быццам спяшаючыся, і без перапынку...

Нікаціныч, пакуль ішоў спектакль, бажыўся пра сябе, што болей яго сюды ні за якія пернікі не зацягнеш. І ўрэшце дачакаўся заслоны. Дарэчы, апошні раз у тэатры ён быў гадоў таму дваццаць.

Выходзячы на вуліцу, Раман падумаў, што ў такую жанчыну, як «Джульета» (у сапраўднасці яе імя было Віка, як яна яму паведаміла ) ён мог бы і закахацца. Яна, пры ўсёй сваёй незвычайнасці, была лепшай жанчынай, якую ён калі-небудзь сустракаў.

Яны павольна крочылі да прыпынку метро. Віка расказвала пра сваё жыццё. Яна - чалавек адзінокі, муж сканаў, дзяцей няма, сваякоў таксама амаль нямашака. Ёсць толькі некалькі шчырых сяброў і гэтага зусім дастаткова. Бо Віка, па характары сваім, чалавек самастойны, болей таго, яна – індывідуалістка. Для яе вышэйшай каштоўнасцю ў жыцці з'яўляецца асабістая свабода... Раману яна падабалася ўсё болей. Ён адчуваў, што трапіў ужо ў хвалі яе магнетызму. Яму былі сімпатычнымі і яе «асабістая свабода», і прывабны выгляд, і нават манера балбатаць-тараторыць, не даючы ўставіць слова субяседніку. Аднак ён усё ж уклініўся ў бесперапынны славесны паток і распавёў трохі пра сябе: таксама адзінокі, без дзяцей, але ж ён аддае перавагу калектыву. Дадаў, што працаваў праекціроўшчыкам (тут ён узяў грэх на душу і схлусіў). «Цікава, а кім працавалі вы?» – запытаў ён Віку. «Пры мужы была хатняй гаспадыняй, а потым агентам па рэкламе...»

Пры развітанні яны абмяняліся нумарамі тэлефонаў, і «Джульета» сказала: «Вы – інтэлігентны чалавек, вы мне спадабаліся... Таму дазваляю, як выключэнне, пацалаваць мяне ў палічку». Раман засароміўся і чмокнуў яе, недзе каля вушка...

Прыйшоўшы дадому, Нікаціныч з такое нагоды перагарнуў кілішанак (засталося трохі з дня нараджэння), паклаўшыся ў ложак, аддаўся марам, іншы раз зусім інтымным...

Раніцай ён прачнуўся, як кажуць, ужо па вушы закаханым, як той маладзён. І адразу пацягнуўся да тэлефона. «Добры дзень, Джульета! (Вы дазволіце называць вас гэтак?) Які ў вас настрой?» «Цудоўны, як і дзень, што за вакном». «Ведаеце, вы толькі прабачце мяне, але я не магу стрымацца і не сказаць, што страсна закахаўся ў ВАС!..» Наступіла паўза... Сэрца Рамана моцна забілася... Нарэшце Віка адказала: «Скажу шчыра, што гэтыя словы мне, канешне, прыемныя, але ж мы ўжо даўно не падлеткі. Трэба спачатку добра пазнаёміцца. Гэта мы можам зрабіць па тэлефоне. І ўвогуле - у такіх справах спяшацца неабачна». «Як вы сабе хочаце, ды я ўсё роўна моцна вас кахаю і надта шчаслівы!» У адказ Віка толькі задаволена рассмяялася.



І пачаўся ў Рамана, як ён потым гэта назваў, «мядовы месяц». Тут трэба заўважыць, што Рамана, як і ўсялякага нармалёвага чалавека, вельмі раздражняла, калі гадзінамі немагчыма было датэлефанавацца ў рэгістратуру паліклінікі; або калі капітальна не здымалі слухаўку ў аптэцы; калі доўга быў заняты нават прыватны тэлефон. «Гэта праява нявыхаванасці!» – у такія моманты думаў ён. Гэта – бескультур'е». Аднак, гэтыя бясспрэчныя меркаванні былі ім у момант забытыя, калі пачаліся ягоныя асабістыя размовы па тэлефоне з Вікай. Якая, між іншым, амаль ніколі яму не тэелефанавала, спасылаючыся кожны раз на заўсёды праўдападобныя прычыны.

Размовы іхнія былі вельмі працяглыя і частыя. Раманам апанавала ліхаманка кахання, і праз кожныя дзве-тры гадзіны ён набіраў нумар Джульеты (адкуль што бралося!). Звычайна размова выглядала гэтак. Раман з першых жа слоў паведамляў, што каханне ягонае ўсё расце, што ім трэба жыць пад адным дахам, што ў яго няма ўжо моцы трываць... Віка тактоўна ахаладжвала яго і, калі ён сціхаў, уключала свой «паток». Трэба сказаць, што яе можна было б лічыць адмыслоўцам, як гаворыцца, шырокага профілю. Здавалася, яна ведала ўсё у свеце: і мастацтва, і палітыку, хрысціянства і медыцыну, і ўсё, усё, усё... Напрыканцы свайго маналогу, які доўжыўся звычайна гадзіну-дзве, яна вылучала пару хвілінаў Раману. Ён, увесь час павялічваючы націск, настойліва патрабаваў ад яе згоды на шлюб. І аднойчы яна не вытрымала: «Гэта ўжо тэрор! Замах на маю асабістую свабоду! Я болей выносіць гэтага не магу... Я ўсё абдумала і назаўсёды спыняю нашы адносіны! Рашэнне канчатковае!» І бразнула слухаўкай.

«Што ж, у каханні бываюць і няўдачы», – сумна падумаў няшчасны Нікаціныч, ледзьледзь не плачучы. – Але нічога, перажывем...»

Напрыканцы ж месяца ён пайшоў на пошту разлічвацца за тэлефонныя паслугі. І, калі пачуў лічбу – 71 тысяча 100 рублёў, то не паверыў і разгубіўся. «Вы не жартуеце? – перапытаў ён раптам сеўшым голасам. – Можа, памылка?» – «Якія тут могуць быць жарты – з'едліва пасміхнулася маладзёна за ваконцам. – Размаўляць трэба меней». – «А гэта ўжо мая справа», – пахмурна адказаў Раман Нікадзімыч, адлічваючы як раз дзве трэці ад толькі што атрыманай пенсіі...

Па дарозе дадому не на жарт разгуляўся ягоны радыкуліт. Думкі Нікаціныча былі, натуральна, невясёлыя. Пра сваё адзінокае жыццё; пра кошты, якія растуць, як грыбы пасля дажджу і кусаюцца нібы злыя сабакі; пра свой нязграбны – і смех, і слёзы – «мядовы месяц» ... «Ну, ды нічога, перажывем...» – суцяшаў ён сябе. Бывае і горш...»

# Асілак

### (Легенда з часоў паншчыны)

Працяг. Пачатак на стар. 7

Улетку стары, малы бяжыць-хапаецца, хто з касою, хто з сярпом, хто з граблямі, хто ў поле, хто куды, а Хоўра выпаўзець з хаціны свае, казаў той – крот з зямлі; у руцэ – кашолка, у другой – кіёк даўжэнны. Падзівуецца на сонца з-пад далонькі, акіне вокам вокны пабітыя і саломаю заткнутыя, страху, травою парослую, сьцяну, бярном падапіртую, пастаіць і закандыбае ў пушчу грыбы шукаць. Часам цэлы дзень у лесе басьцяецца, зьдзічэла зусім. Калі Ганна часьцей стала па хваробы закідацца, гукнуў Васіль Хоўру к сабе ў хату жыць. Падаперла баба плашкаю дзьверы ў хаціне сваёй, котку з сабою к Васілю прывяла. Аднойчы Васіль, з кірмашу вярнуўшыся, ня ўцерпіў і пераказаў у хаце, што чутно сярод людзей, што на сьвеце дзейкаюць. Чуў ён, што народзіцца скора нязвычайны асілак і будзе збаўцам ад паншчыны. Пяюць ужо аб ім старцы падарожныя. Выпрасілі яго ў Бога людцы падданыя, прыгнячоныя, і падарожнічкі ўбогія, і халодныя, галодныя, на войнах забітыя, панамі замучаныя. І пойдзе жыцьцё на новы лад. Ня будзе болей паноў, ні хлопаў, падданых ім. Усе будуць роўныя, закрасуе наш Забраны Край. – «Чаму ж гэта не зьявіўся твой мусіяш раней трошачку, пакуль не забілі бізунамі слугі панскія брата майго нябожчыка? – горка і злосна Хоўра пасьмяхалася. – І ты ўважаеш, што так дужа лёгінька ўсё тое зьдзеіцца? – Ня мела веры яна, злюшчая: – Ого-го, пойдзе па зямлі завіруха шалёная, будуць забойствы і грабежствы крывавыя, пальлецца кроў людзкая цэбрамі, здурнеюць людцы без паноў-начальнічкаў. І дасьць за ўсё адказ на страшным судзе той, хто прасіў, маліў, каб зьявіўся той асілак-мусіяш»... Ганна слухала і баялася. А тымчасам мільгнула лецейка краснае, неўзабаве мінулася. Ужо чырвонымі кісьцямі зьвісала ў лесе рабіна горкая, на асінах лісьце барвіцца пачало. Зпусташэла поле ярыннае, а дзе парыня чарнелася цяпер – рунь зялёная. Крукаюць у небе высокім жоравы, стройным гужам і шпарка лятучы. Глядзяць на іх сярод вачкастых панскіх канапель, задраўшы галавы, людцы прыгонныя, лятуць з імі думкаю ў староны заморскія, вырай вольныя. Э, ня тая ўжо пара – восень позная. Вось і бульбу капаць – рукам надта сьцюдзена: трэба бегчы пад лес, дзе ля возу цяпло невялічкае раскладзена, маркотна патрэсківае, даліною дым сьцелецца, – трэба бегчы тудой пагрэць рукі акалелыя. Скора Пакроў. Наступілі пасьля сонечных, з павучынкаю, дзён і ядроных, з марозікам белым на страсе, начэй, наступілі дажджы мутныя, сіверка ёдкая, халіпа, ветры з поўначы. І прыйшла Ганне пара з вечара яшчэ мучыцца, а Васіля ўдаму няма. Як сеялі жыта панскае, дык і ён з лубкаю-сяўнёю хадзіў. І прапаў ворак жыта на гонях яго. – «Хто ды хто ўчыніў бяду?» – Няма вінаватага. Абсеклі Васіля розкамі, старога, за грэх ня свой, а чужы, няведамы і пасадзілі ў склеп. – «Нешта ж доўга няма яго? Гукалі ж, сяньня выпусьцяць», – казала Ганна ў вялікай тузе. – «Прыдзе, прыдзе, ня тужы так, мая ластаўка, не гаруй, галуба мая шызая: іншыя трудней яшчэ разьбіраюцца, нагледзілась я за свой доўгі век». А ў вокны вецер ломіцца, на балонах плача капкамі. Апанавала зямельку нямота чорная. Пазаснулі хаты мужыцкія. Толькі тут непакой. Суяціміцца Хоўра з цугуночкамі з вадою летнаю, з начоўкамі, з пялёнкамі, чакаючы блізкае. А Ганна зьбялела, аж сіняя, па хаце ходзіць, рукі ломіць, з тужлівым маленьнем пазірае на абразы чорныя, дзе цяпліцца тонкая сьвечачка. Наступіў той час. Абляцеў па хаце дзяціны плач. З бязьмежнай далікатнай жаласьлівасьцю і пакойным чуцьцём труда скончонага ляжала жонка-радзіха, адпачываючы, і слухала гэты крык радасна і з нейкаю нявераю, зьдзіўлёная, што занадта голасен для дзіцёначка. А Хоўра, баба спрактыкаваная, адразу ў страсе адхіснулася. Падбегла, стала на ўлоньне браць сабе, – яшчэ горш напудзілась: як камень цяжкі. Асьцярожна падказала думку гэтую і радзісе першастковай, нязнаючай, а яго-ткі падняла, у начовачкі паклала купацiся. І льлецъ дождж на двары патокамі буйнымі. К нізу самаму падбіраецца аганёк сьвячы. Лучына бязуважна гарыць. Разгарнула баба дзяціныя полачкі, жбанок з вадою сьвяцонай узьняла, лінуць злажылася на маленькага... Плесь!! Раптам ён, на ручках узьнімаецца, локцікам упіраецца. Сеў. Зьмярцьвелі рукі бабскія, быццам сьцюжаю зьнеткуль павеяла. – «А хоць бы жа Васіль барджэй», – шапатала радзіха няшчасная. А Хоўра сьцяміла, што трэба рабіць. Паклала яго, страх свой перамагаючы, на полачкі, завінула і цясёмкаю добраю спавіла. Толькі зьвязала, як крутнуўся хлопчык раз-параз, ручкі ўжо выпрастаў, знатужыўся троху нібы-то і парваў пояс, як нітачку. Валасы дыбам сталі ў баб на галаве. – «Асілак!!» – Шырока выкацілі яны вочы, ад жаху поўныя, кінуліся адна да днэй і ледзьва шаволяць вуснамі: «Сьвят, сьвят, сьвят...» А ён, распавіўшыся, спакойна бавіцца, ловіць ножкі ручкамі. – «Асілак, – шапатала баба радзісе – Што мы будзем рабіць? – шапатала яна, сьмялеючы, на вуха ёй. – Ня жыць яму з намі, а нам і з ім». – «Пачакаем Васіля», – матка не згаджаецца. – «Не замолім грэху, як пакінем жыць яго, – змушчала так, – няхай лепей застаецца ўсё падаўнейшаму. А-ткі ж цярпелі да нас прыгон, дасьць Бог, выцерпяць і посьле нас. А з ім – пойдзе па сьвеце завіруха шалёная. Лепей жа падаўнейшаму, без яго»... «Пачакаем Васіля», – сьпіраецца Ганна нясьмелая. – «А як ён вырасьце за гэты час, што ўжо ня здужаем, як тады?» Васіль у гэты час, з склепу выпушчаны, аслабелы і зморany, мясіў гразь сярод ночы і бязгодзіцы, пасьпяшаў дамоў і кляў долю прыгонную, падданую. – «Ну? Ну?» – лезла Хоўра к матцы слабеючай. І схапіла, ашалелая, дзіцянё за ножкі белыя, зубамі скрыгнула, размахнулася з усяе сілы і трэснула галоўкаю аб прыпечак. Шусь у хату Васіль. – «А-я-я-я... А што вы паробілі?!» – застагнаў і паваліўся на зямлю, на асілкаў трупок. А вецер вые за сценамі, плачуць балоны вакенныя капкамі мужнымі.

# «ВЫ КАХАЛІ ДЗЯЎЧЫНУ?»

## *спытаўся ў мяне дзевяностагадовы паэт Рыгор РЭЛЕС*

**Рыгор Рэлес – паэт, патрыярх яўрэйскай літаратуры на ідыш. Нарадзіўся ў Чашніках, усё жыцьцё працаваў літаратурным работнікам, 40 гадоў выкладаў у школе. У сваім паважным веку паэт захаваў жыцьцёвую энэргію, здольны зьдзіўляць і сёньня.**

**– Рыгор Львовіч, што будзе заўтра?..**

– Я пражыў даўгое жыцьцё і пераканаўся, што ні ў якім разе нельга прадбачыць, што будзе. Нават найвялікшыя людзі не маглі гэтага ведаць. Сустракаюцца такія, каторыя дэталёва апісваюць будучыню, распавядаюць пра дзень заўтрашні. Але не прыпомню, каб нешта глябальнае спраўджвалася. Жыцьцё мае такія нечаканыя павароты, што прадказваць нешта немагчыма. Я, напрыклад, ня мог уявіць, што ня будзе савецкай улады; ня мог уявіць, што ня будзе КПСС... Ці ж мог я ўявіць, што дажыву да той пары, калі буду размаўляць пра гэта з вамі?

**– Я захапляюся «гістарычнасцю» Вашага жыцьця. Вы нарадзіліся за царом, пайшлі вучыцца у часы Леніна, творчы шлях пачалі, калі лютаваў Сталін, пайшлі на пэнсію за Брэжневым, былі сьведкам перабудовы Гарбачова, назіралі Адраджэньне пачатку 90-х, жывяце цяпер пры гэтай уладзе. Дык што трэба нам, каб жыць добра?**

– Разумееце, я не эканаміст... Памятаю, як у першыя гады савецкай улады ад голаду паміралі людзі. І раптам, гэты ленінскі НЭП!.. І ведаеце – за 3–4 гады ўсё раптам зьявілася, і танна! Праўда, цяжка было знайсьці працу. Але і гэта было вырашальна. Калі памерла мама, мне было 5 гадоў, сястры – 2 гадочкі. Мама была гандляркай, бацька ў гэта ня лез. Калі зьявіўся НЭП, мае сваякі адкрылі мануфактурную лаўку. І нармалёва жылі. А тут яшчэ і грашовая рэформа – за 3 капейкі я мог купіць порцыю марожанага...

**– А заробак які быў?**

– У мяне, дык – ніякага, я быў яшчэ галапузым. Бацька мой першыя гады савецкай улады быў муламедам – вучыў дзяцей мове, Бібліі. Яму плацілі нешта, але ж мы былі сіратамі. Бацька лічыўся паўінтэлігентам. Мясцовыя ўлады прыладзілі яго працаваць загадчыкам лазьні – заробку меў 12 рублёў. Гэтых грошай хапала.

**– На марозіва ў тым ліку?**

– Якое там асабліва марожанае... Бацька даваў нам на ўсіх 15 капеяк. Мы беглі да хлапца, які ў невялічкай кадцы насіў па вуліцах марожанае: «Са-а-лодка-а-е-е маро-о-жан-а-ае!» Дасі яму гэтыя тры капейкі – і атрымліваеш тую запаветную порцыю...

**– Якія яшчэ былі радасьці ў жыцьці?**

– Я вам скажу яшчэ радасьць: калі мне далі грошы на кіно, 5 капеяк. Першым разам я увогуле – прыйшоў дахаты і расказваю, расказваю гэтыя цуды... Раней мая сястра была ўжо ў Віцебску, бачыла кіно. Па прыездзе яна распавядае: вуліца, людзі ходзяць, машыны едуць, усе прадаюць, купляюць... Ззаду стаяў і падслухваў дзед, а тады й кажа: «Разьвешваюць палатно, і там машыны ходзяць, людзі купляюць!.. Цьху!! А вы разьвесілі вушы і слухаеце! Цьху на вас усіх!» І пайшоў.



**– Рыгор Львовіч, Вы выдатна гаворыце па-беларуску. А на якой мове размаўлялі ў родных Вам Чашніках у 1920 годзе?**

– Мясцовыя – то пабеларуску. І мы – за імі. Мяне ад 5 гадоў, па сьмерці мамы, выхоўвала беларуская дзяўчына Наташа. Можаце меркаваць, на якой мове яна магла мяне гадаваць. Таксама помню такі момант. Была вечарына. Прыехала, здаецца, трупа Галубка. Прычым – упершыню. І вось, у першым шэрагу сядзяць вясковыя дзяўчаты, і раптам адна крычыць на ўвесь клюб: «Манька! Слухай – яны ж па-нашаму гавораць!» Мы размаўлялі па-беларуску, не ўсьведамляючы, што гэта – беларуская. Бацька быў больш адукаваны, даў мне чытаць «Новую Зямлю». Па вечарах ставілі на стол курнік – і чыталі ўсе разам.

**– Зь якога веку ведаеце грамату?**

– Калі мне было шэсьць гадоў, бацька аддаў мяне ў хэдар (яўрэйская чатырохгадовая школка. – **Г.Л.**). Сам ён таксама ўтрымліваў хэдар, але мяне вучыць не захацеў, бо не жадаў палёгкаў у навучаньні. У Чашніках жа было 4 хэдары – у кожным чалавек па 15. Пасьля, калі Віцебская вобласьць увайшла ў склад Беларусі, зьявіліся кнігі. Да таго часу я ўжо займеў вялікую ласку да беларускай мовы. Покуль ня ўзьніклі школкі, на трасянцы гаварылі ўсе. Сярод шкаляроў навялі парадак: ці па-беларуску, ці па-руску. Але, вы разумееце, наколькі тое было фармальна...

**– Што ў школе падабалася?**

– О-о-о! Мову і літаратуру ў нас выкладаў «нашанівец» Хвеадосій Рыгоравіч Іваноў (Рэлес вымаўляе так, як і 80 гадоў таму. - **Г.Л.**). Ён добра знаўся з Янкам Купалам. Аднойчы Купала інкогніта прыехаў у Чашнікі, каб зь ім сустрэцца. Спыняўся Купала ў настаўніцы рускай мовы Веры Іванаўны Андрэевай. Паэт прабыў у нас два дні, пасьля Хвеадосій Рыгоравіч праводзіў яго на фурманку – чыгунка зьявілася пазьней. І Купала праз Воршу, адтуль чыгункай, паехаў на Менск.

**– Рыгор Львовіч, паспрабуйце заплюшчыць вочы – і ўспомніць Чашнікі вашага дзяцінства...**

– Драўляныя хацінкі, вуліцы... Драўляныя ходнікі – у цэнтры. Брук, але вуліцы ўсё адно брудныя. Мы жылі ў завулку, дык рэдка калі з маіх галошаў дома не вылівалася вада...

**– У якім завулку вы жылі?**

– У Віленскім. Пасьля, за Саветамі, ён стаўся Чырвонаармейскім. А ведаеце, чаму Віленскі? Мой бацька і некаторыя іншыя раней жылі ў Вільні – таму і Віленскі.

**– Новая назва каму спадабалася?**

– Не! Хоць, у прынцыпе, мы тады мала зважалі на назвы вуліц. Да таго ж, для нас ён так і застаўся Віленскім.

**– Галоўная вуліца была?**

– Вядома – Лепельская. Яна вяла на Лепель.

**– Ваша хата была далёка ад цэнтра гораду?**

– Завулак наш быў перпендыкулярны да сярэдзіны Лепельскай вуліцы...

**– О-о! Прэстыжны, пэўна, раён!**

– Самы прэстыжны – гэта базар.

**– Што было ў цэнтры гораду – вакзал жа праз адсутнасьць чыгункі быць ня мог?**

– Дык ён – кірмаш – і быў. Чыгунка стала будавацца ў 1927 годзе. У некалькіх кілометрах ад Чашнікаў прайшла чыгунка Ворша–Лепель. А з Воршы – і на Мінск, і на Маскву...

**– А як яшчэ раней дабіраліся да Чашнікаў?**

– Фурманкі. Зьбіраліся тры-чатыры чалавекі, якім трэ было ў Лепель, ішлі да балаголаў, дамаўляюцца – і едуць у Лепель.

**– А як жа зь Менску да Чашнікаў ехалі?**

– Да Віцебску чыгункай, адтуль – фурманкаю.

**– І колькі ж ехалі?**

– На гэтыя 90 кілометраў ішло дзесьці чатыры-пяць гадзінаў.

**– Калі не было газэтаў ды іншых сродкаў масавай інфармацыі, як вы даведваліся навіны?**

– Вой – нашто газеты, калі ёсьць мясцовыя гандляры!..

**– Чым запомніўся перыёд усталяваньня савецкай улады?**

– Мітынгі, мітынгі... Некаторыя той парою толькі і жылі – мітынгамі. Адная жанчына наслухалася была такіх агітацыяў, прыйшла дахаты, адчыніла хлеўчык ды крычыць на курэй: «Кыш, катух! Свабода!» Мы пасьля так яе і звалі – «Кыш-катух-свабода».

**– Вы – паэт-лірык. Ці цяжка было пісаць лірычныя вершы, калі навокал – незразумеласьць, балота, камунізм?..**

– Ведаеце, у гэтай балотнай правінцыі была свая лірыка. І разьвівалася яна дужа пяшчотная... Мы міжволі рабіліся лірыкамі...

**– А мы можам сёньня міжволі рабіцца лірыкамі?**

– Міжволі? Не. Сярод гэтага трумбуруму?..

**– Нават у Чашніках?**

– Якія там сёньня Чашнікі? Чашнікі, дзе мы рабіліся лірыкамі, жывуць адно ў маіх успамінах. Мы тагачасныя не былі нідзе, акрамя Чашнікаў, і нас нікуды не цягнула. Гэта быў свой кут. Там было ціхенька, хораша, спакойненька... Мы жылі ягонымі цікавасьцямі, ніколі ні на што не скардзіліся. Мы любілі свой кут...

**– Што Вы асабліва любілі ў тых Чашніках, чаго няма сёньня?**

– У Чашніках працякала рэчка Ульянка, якая цякла да Улы, а Ула – да Дзьвіны. Вада з Ульянкі была смачная!.. Памятаю, быў ваданос Нохэм. Ён за грошы насіў людзям ваду з Ульянкі. Дык аднаго разу нехта пашкадаваў 3 капейкі, прапанаваў за дзьве. Тады Нохэм, які цаніў сваю працу ды шанаваў Ульянку, пайшоў – і выліў ваду абратна ў раку... Цяпер Ульянкі няма... Калі я быў у Чашніках апошні раз, зайшоў напіцца вады да нейкай старой, якая, як аказалася, памятае майго бацьку. П'ючы ваду, я стаў згадваць Ульянку і шкадаваць услых, што рачулкі няма. Гаспадыня сказала мне набраць вады з калонкі ў двары. І якое было маё зьдзіўленьне, калі я пазнаў смак вады з Ульянкі! Старая сказала мне: «Рэчка раззлавалася на нас – і сышла ў глыбіню. І цяпер пасылае нам сваю ваду...»

**– Рыгор Львовіч, вы перажылі ў свой час змаганьне зь яўрэйскай моваю. У сёньняшняй Беларусі, дзе зачыняюць незалежныя газэты, дзе спрабуюць зьнішчыць Беларускі ліцэй, дзе ўлады змагаюцца з Таварыствам Беларускай Мовы, чым ратавацца?.. Дайце мне такі рэцэпт.**

– А вы і самі яго ведаеце: паглыбляйцеся ў кнігі, літаратуру. Там ёсць і адказы, і рэцэпты, і лекі. Не сумуйце з нагоды сваёй менскай прапіскі. У нас казалі: у Мінску ўсё па-сьвінску. Тым болей, можна сесьці на электрычку ды паехаць у лес. Я і цяпер у Менску блукаю па парках, дворыках...

**– Думаеце, што можна сысьці ў сябе, верыць і ратавацца ад гэтага?..**

– Паміж мною і вамі розьніца ў 73 гады. Я вас разумею – сам быў такім. Цяпер я рады таму, што мяне ніхто не чапае, не катуе. З узростам спакайнееш. Раней я быў больш эмацыйны.

**– Максім Танк у вершы пра шчасьце сьцьвярджае, што яно складаецца з хлебу, з солі, з роднага небасхілу... Як на Вас, шчасьце ўвогуле ёсьць?**

– Не хачу заразіць вас сваімі думкамі...

**– Шчасьця няма?**

– Я ніколі яго, сапраўднага, не адчуваў.

**– А я магу адчуць?**

– Вы малады чалавек, вы можаце. Я ў вашым веку хадзіў у нагавіцах, якія сам сабе цыраваў... Калі, бывала, куплю сітніцу – грам трыста хлеба – ем, запіваю вадой... І які смак быў! Часам я змагаюся з сабою, ганяю розныя думкі. І натрэніраваўся так, што мне гэта ўдаецца.

**– Хочаце сказаць, што маё шчасьце – у штанах і хлебе?**

– Вы ня можаце цяпер адчуваць сябе шчасьлівым. Гэта ўзрост. Вы кахалі дзяўчыну?

**– Так.**

– І цяпер кахаеце?

**– Так, але яна пра гэта ня ведае.**

– У гэтым ёсьць сваё шчасьце. Бо шчасьце – шалёна рознае. Вы напісалі вершы, вам звоняць, хваляць... Хіба гэта ня ёсьць шчасьце? Кожная сустрэча з каханаю – шчасьце. Калі вы, вядома, сапраўды кахаеце, і ў тым выпадку, калі не ўладарыце над сваімі пачуцьцямі. Усяцэлае шчасьце таксама ня радуе. Але ж, ад шчасьця нельга стаміцца...

**– А Вы зараз можаце быць шчасьлівы? У Вас добрая кватэра, пэнсыя, шмат прыхільнікаў і сяброў...**

– Кватэра, пэнсыя... Побыт – гэта шчасьце для абмежаваных. Шмат хто лічыць мяне старым дурнем. Гэта сумна для мяне.

**– Узрост Вашай душы супадае з пашпартным?**

– Цяпер ужо – так. Раней не супадаў, душа маладзейшая была.

**– Вершы пішуцца?**

– Апошнім часам я напісаў 3 вершы, але баюся іх паказваць, бо сам не магу ацаніць. Я быў упэўнены, што мне ўдасца, але не адчуваю...

**– Жыцьцё – кароткае? Варта сьпяшацца?**

– Я адкажу вам прыпавесьцю. Аднойчы нейкі чалавек замовіў яўрэю-краўцу порткі. Той рабіў амаль месяц. Нарэсьце разззлаваны кліент прыйшоў забіраць замову й кажа: «Бог стварыў Сьвет за шэсьць дзён, а ты мне порткі рабіў месяц!» Стары яўрэй пагледзеў на мужыка й гаворыць: «Дык якія порткі, а які сьвет...»

Гутарыў
Глеб ЛАБАДЗЕНКА

# Мікола Шкялёнак – гісторык і палітык

На Трэцім з'ездзе беларусаў свету, які праходзіў у Мінску 4–7 ліпеня 2001 года, мне пашанцавала пазнаёміцца з нашчадкам беларускага гісторыка і палітыка Міколы Шкялёнка Міхасём Шкялёнкам.

Міхась Шкялёнак жыве ў Маскве, працуе генеральным дырэктарам прыватнага прадпрыемства. Ён з'яўляецца актыўным удзельнікам кансалідацыйнага руху беларускай дыяспары ў сталіцы Расіі, у складзе аргкамітэта ўдзельнічаў у заснаванні Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны. Са слоў сп. Міхася я даведаўся, што, бываючы ў сваёй роднай вёсцы Пякоціна Міёрскага раёна, ён аднойчы запытаўся ў свайго дзядзькі Уладзіміра Лук'янавіча Шкялёнка, 1919 года нараджэння, пра Міколу Шкялёнка. Той і сказаў, што гэта «наш сваяк, быў вельмі адукаваным чалавекам, але ў гады вайны ён кудысьці знік і больш ніхто ніколі яго не бачыў». На жаль, Уладзіміра Лук'янавіча ўжо няма ў жывых. Ды і хаты, дзе нарадзіўся гісторык і палітык Мікола Шкялёнак, не захавалася. На працягу апошніх 60-ці гадоў замоўчвалася і імя гэтага чалавека.

У савецкі час пра Міколу Шкялёнка ўспаміналася як пра аднаго з актывістаў «белорусских буржуазных националистов - злейших врагов белорусского народа»(Л.Цанава. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Мн.,1951. С.642-836), ці сярод «заўзятых паклёпнікаў і прайдзісветаў, якія рэдагавалі і выдавалі ў Мінску розныя фашысцкія газеты і часопісы, былі перакладчыкамі і прапагандыстамі ў апараце Кубэ».

Беларускі юрыст, гісторык, публіцыст, культурны і палітычны дзеяч Мікола Шкялёнак нарадзіўся ў 1899 годзе ва ўзгаданай вёсцы Пякоціна на Міёршчыне. Бацька яго Восіп і маці Аляксандра мелі каля трыццаці гектараў прыватнай зямлі, трымалі двое коней, сем кароў, авечак, свіней. Уласнымі сіламі ўсё гэта дагледзець яны не маглі, таму наймалі парабкаў.

У іх сям'і, акрамя Міколы, было яшчэ двое сыноў – Пётр (1902–1977) і Павел (1903–1928?). Але добрую адукацыю Восіп і Аляксандра Шкялёнкі змаглі даць толькі старэйшаму сыну Міколу. У 1932 годзе ён скончыў юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта па спецыяльнасці адвакат. У час вучобы прымаў актыўны ўдзел у беларускім маладзёжным руху. Ён з'яўляўся сябрам Беларускага студэнцкага саюза (БСС), які існаваў пры Віленскім універсітэце. 26 кастрычніка 1926 г. на агульным сходзе БСС яго выбіраюць старшынёю, а таксама прызначаюць рэдактарам «Студэнцкай думкі» – перыядычнага органа Беларускага студэнцкага руху.

На пачатку 1930-х гадоў Мікола Шкялёнак працуе адвакатам у Вільні, з'яўляецца сябрам Беларускага навуковага таварыства (БНТ). А 12 лютага 1939 года яго выбіраюць сакратаром таварыства. Гісторык актыўна выступае з рэфератамі, прысвечанымі мінуўшчыне Беларусі. Чытае лекцыі сярод актывістаў Беларускага студэнцкага «Таварыства прыяцеляў Беларусаведы», з'яўляецца сябрам рэдкалегіі часопіса «Калосьсе». У гэты час з-пад пяра гісторыка выходзяць яго выдатныя працы: «У трохсотыя ўгодкі смерці Вялікага канцлера Льва Сапегі» (1933), «Копныя суды» (1932), «Падзел гісторыі Беларусі на перыёды» (1938), «Культурнае рабства» (1939) і іншыя. Тагачасныя беларускія крытыкі даволі станоўча ацэньвалі яго гістарычныя артыкулы і выступленні. Так, напрыклад, Сяргей Паўловіч у другім нумары часопіса «Беларускі летапіс» за 1938 год пісаў: «Асаблівую ўвагу заслугоўвае артыкул гр.М.Шкялёнка: «Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды». Дасюль у гісторыі Беларусі адзначалі такіе пэрыёды: полацкі, літоўска-беларускі, польскі і расейскі, ня лічучы апошняга 20-годзьдзя. Гр. Шкялёнак паддае крытыцы гэты падзел і, выходзячы з пагляду, што падставай для падзелу на пэрыёды павінны быць ня вонкавыя «пераломныя» моманты ў палітычнай сувязі ці прыналежнасьці да таго ці іншага гаспадарства, а глыбейшыя перамены ў суцэльнасці палітычнага, соцыяльнага і культурнага жыцьця народу, прапануе падзяліць гісторыю Беларусі на наступныя тры пэрыёды: 1). Пэрыёд асобных гаспадарстваў ад IX да паловы XIII ст., 2). Пэрыёд суцэльнае гаспадарсьцьвеннасьці ад паловы XIII да канца XVII ст. і да апошняга часу. З гэтых, першыя два пэрыёды абыймаюць Беларусь незалежную, з тэй розьніцай, што ў першым пэрыёдзе незалежнасьць беларускага народу існавала пры нястачы суцэльнага гаспадарства...»

Акрамя культурна-асветніцкай дзейнасці, Мікола Шкялёнак актыўна займаўся і палітыкай. Дзесьці ў 30-х гадах ён служыць у Польскім Войску. Праўда, пра гэта нідзе не згадваецца, акрамя што ва ўспамінах Юліяны Вітан-Дубейкаўскай: «У нашай хаце на Падгорнай (маецца на



ўвазе ў Вільні. – **С.Ч.**) знайшлі прыпынак і мая сям'я (братавая з дачкой і ўнучкай), і добрыя прыяцелі. Мілым госцем быў прафесар Вацлаў Іваноўскі, як і праўнік Мікола Шкялёнак, які вярнуўся з войска ў Вільню, але ня мог жыць у сваёй жонкі, бо там яго ўжо шукалі, гэтак ён хаваўся ў нас. Ягоная жонка, зь якой я была ў вялікай прыязьні, яго наведвала. Потым ён уцёк у Нямеччыну».

Але перш чым уцячы ў Германію, Мікола Шкялёнак у 1936 годзе далучаецца ў Вільні да ксяндза Вінцэся Гадлеўскага і становіцца адным з заснавальнікаў групы «Беларускі нацыянальны фронт». Ён уваходзіць у штат рэдакцыі «Беларускі фронт» (з мая 1936 года газета выходзіла адзін раз у месяц, а з 1939 года – два разы на месяц).

Сябры групы «Беларускі нацыянальны фронт» (БНФ) сталі на аснове незалежнасці Беларусі, выступалі супраць антыбеларускай дзейнасці камуністаў, з'яўляліся ініцыятарамі стварэння шырокага незалежніцкага фронту. Але адчуваючы, што хутка бальшавікі забяруць Вільню, ксёндз Вінцэсь Гадлеўскі прапануе сябрам незалежніцкай групы план адыходу ў Варшаву, каб там стварыць новы незалежніцкі цэнтр. І 15 чэрвеня 1940 года Вінцэсь Гадлеўскі і Мікола Шкялёнак нелегальна пераходзяць мяжу ў розных месцах. Праз пэўны час яны сустракаюцца ў Варшаве.

У Варшаве сябры групы «БНФ» адразу ўзяліся за працу, за арганізацыю новага цэнтра, каб ахапіць сваёй дзейнасцю некаторыя краіны Еўропы. Мікола Шкялёнак накіроўваецца ў Берлін. Прыехаўшы ў гэты горад, ён пачынае актыўную палітычную дзейнасць. Найперш працуе ў беларускай газеце «Раніца», а з сакавіка 1942 года яго выбіраюць галоўным рэдактарам гэтай газеты. У «Раніцы» Мікола Шкялёнак друкуе свае гістарычныя артыкулы «Да метадалогіі гісторыі Беларусі», «Тэрыторыя і дагістарычныя насельнікі Беларусі», «Перыядызацыя гісторыі Беларусі», «Беларусь – Літва – Крыўя» і іншыя. Дарэчы, у «Раніцы» ён друкуе і першыя вершы Ларысы Геніюш.

У лютым 1943 года Мікола Шкялёнак прыязджае ў Мінск, дзе рэдагуе бюлетэнь «Беларуская карэспандэнцыя». А пасля забойства галоўнага рэдактара «Беларускай газэты» Уладзіслава Казлоўскага, становіцца яе рэдактарам. Аб гэтым добра ўспамінае Наталля Арсеннева ў сваім «Аўтабіяграфічным нарысе», які быў змешчаны ў кнізе «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі» (Нью-Ёрк, 1999 г.): «Прыйшоўшы дахаты, я сказала аб гэтым (аб забойстве Уладзіслава Казлоўскага. – **С.Ч.**) Шкялёнку, які таксама ў гэты дзень раней вярнуўся з працы, і папрасіла яго дапамагчы мне выдаць наступны нумар, тым болей, што шмат матэрыялаў я мела ў сябе, а пераклады можна было заўсёды зрабіць з нямецкіх газэтаў, якія таксама былі ў хаце. Шкялёнак, вылаяўшыся па адрасам некаторых нашых мужчынаў з рэдакцыі, прызнаў мне рацыю, і, павячэраўшы, мы селі за працу. Працавалі мы да трэцяй гадзіны ночы, але газэту зрабілі.

Назаўтра ўвесь матар'ял быў перабіты на машынцы, і сын мой, які таксама працаваў у нашай рэдакцыі, завёз яго ў друкарню на Камароўку. У сераду газэта выйшла, як заўсёды. Трэці паверх нашае рэдакцыі быў замкнёны. Працавала толькі адміністрацыя і экспедыцыя ўнізе. Я й Шкялёнак перанесьліся ў Камісарыят, дзе было бясьпечна й можна было спакойна працаваць. І так неяк само склалася ад гэтага часу, што рэдактарам газэты стаўся Шкялёнак, а «падрэдактарам» – я».

Але Мікола Шкялёнак больш за ўсё быў заняты не рэдагаваннем «Беларускай газэты», а палітычнымі справамі. У створанай у Мінску Беларускай Цэнтральнай Радзе (БЦР) ён займеў пасаду першага віцэ-прэзідэнта. «Як толькі была аформлена БЦР, – успамінае Яўхім Кіпель у сваёй кнізе «Эпізоды» (Нью-Ёрк, 1998), – прыкладна ў студзені 1944 году, я, памятаю, гутарыў са Шкялёнкам.

– Мікола, што ж будзем рабіць далей? Рада назначаная, але нашае становішча невыразнае, нешта трэба рыхтаваць далей.

На гэта Шкялёнак адказаў прыблізна так:

– Трэба склікаць Народны Сход, трэба выстаўляць прынцып незалежнасьці.

Праз пару тыдняў мы зноў сабраліся, гэтым разам да нас далучыліся Ю.Сабалеўскі ды Ф.Кушаль. Сабалеўскі сказаў, што і Астроўскі думае пра сход, а Кушаль проста гаварыў: мы павінны мець зусім незалежнае ад немцаў камандаваньне, бо яны стрымліваюць нашу працу. Прыблізна да канца студзеня 1944 году ідэя Другога Ўсебеларускага Кангрэсу (меналі так мы вырашылі называць сход), абнародаваная БЦР у вузкім коле беларускіх актывістаў Менску, была сфармуляваная. Праўда, Астроўскі мне і Шкялёнку неяк зазначыў: трэба быць асьцярожнымі, бо немцам на нас наступілі даносы, што мы ў змове. Ясна, гэта былі правакацыі, але ў тым часе немцы, церпячы паразы на фронце, былі вельмі насьцярожаныя і пастраляць змоўцаў ім нічога ня значыла. Дзеля гэтага мы пачалі весьці абмеркаванне нашых планаў толькі ў прыватных памяшканьнях».

Другі Усебеларускі Кангрэс адбыўся ў Мінску 27 чэрвеня 1944 года. З асноўным дакладам, які называўся «Аб прызнаньні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу», выступіў Мікола Шкялёнак. Ён, у прыватнасці, сказаў, што «ўсе пастановы і трактаты ўрадаў СССР і былой Польскай дзяржавы адносна Беларусі і ейнага народу рабіліся бяз удзелу прадстаўнікоў беларускага народу і былі накіданыя Беларусі гвалтам чужынцоў. Беларускі народ ніколі не ўважаў іх за акты права, але за акты чужацкага паняволеньня. У сучасныцьці вайна зьмяла з Беларусі ранейшыя польскія і бальшавіцкія дзяржаўныя парадкі і дала магчымасьць стварэньня новага ладу, пры якім беларускі народ хоча быць суб'ектам права. Аднак як урад СССР, так і польскі эміграцыйны ўрад у Лёндане імкнуцца зьвярнуць сваё ранейшае панаваньне на Беларусі, паклікаючыся на свае ранейшыя дагаворы. Таму Другі Ўсебеларускі Кангрэс павінен на ўвесь сьвет заявіць аб сапраўдных жаданьнях і волі беларускага народу.

Крыніцамі расейска-польскіх прэтэнзіяў да Беларусі ёсьць звычайнае захопніцтва і гвалты. А вынікам іхняга панаваньня на Беларусі зьяўляюцца нязьлічоныя шкоды для беларускага народу ў палітычнай, культурнай і гаспадарчай галінах. Разгром Беларускай Народнай Рэспублікі, падзел Беларусі паміж Савецкай Расеяй і Польшчай трактатам у Рызе ў 1921 годзе былі актамі супольнага гвалту расейскіх пралетараў і польскіх паноў. Такім самым гвалтам была акупацыя Заходняй Беларусі савецкімі арміямі ў 1939 годзе. Цынічнае санкцыянаваньне гэтага гвалту праз галасаваньне бязвольнага Народнага Сабраньня ў Беластоку не можа зьмяніць сутнасці насільля. Мы адкідаем назаўсёды ўсе ланцугі чужацкай няволі і адмаўляем ім у праве дзеіць ад імя беларускага народу...» (Язэп Найдзюк, Іван Касяк. Беларусь учора і сёньня. Мн., 1993. С. 327).

Праз некалькі дзён пасля Кангрэса беларускі палітык пакідае Мінск і вяртаецца ў Берлін. Вясною 1945 года ён з невялікаю групаю перабіраецца на тэрыторыю Польшчы, каб адтуль пасля вярнуцца ў Беларусь. Па ўказцы аднаго з правакатараў Міколу Шкялёнка высачылі органы НКУС і арыштавалі. Пасля арышту яго прывезлі ў Мінск, дзе ў 1946 годзе прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання...

Многія факты з біяграфіі і творы Шкялёнка знаходзяцца яшчэ за «сямю пячацямі». Напрыканцы мінулага года ў Беластоку мне ўдалося выдаць гістарычную спадчыну Міколы Шкялёнка асобнаю кнігаю, якая мае назву «Беларусь і суседзі». Кніга выйшла дзякуючы Беларускаму гістарычнаму таварыству ў Польшчы.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
*Слонім*

# Віктар Сувораў:

## Любы правал успрымаецца як нажом па сэрцы

**Былы савецкі разведчык Віктар Сувораў, які цяпер жыве ў Англіі, выказвае прафесійнае спачуванне расійскім спецслужбам, якія падазраюць у дачыненні да забойства ў Катары Зелімхана Яндарбіева. Але, на думку аўтара «Ледакола» і «Акварыума», барацьба з тэрарызмам тэрарыстычнымі метадамі бесперспектыўная і небяспечная. Інтэрв'ю у В.Суворава браў берлінскі журналіст Дзмітрый Хмяльніцкі.**

**Д.Х. Віктар, якое ўражанне вы атрымалі ад гісторыі з арыштам супрацоўнікаў расійскіх спецслужбаў у Катары?**

**В.С.** Правал любой разведкі заўсёды ўспрымаецца з пункту гледжання чыста прафесійнага як нажом па сэрцы. Хто б ні праваліўся. Думаеш: хлопцы, ну як жа вы так, не здолелі зрабіць акуратна... Першае ўражанне – правал, і вельмі брыдкі. Канечна, толькі суд можа вынесці канчатковы прысуд, але ў любым выпадку справа мае непрыемны пах. Расія вельмі актыўна змагаецца з тэрарызмам і па рускай звычцы клін выбівае клінам. І, як заўсёды, не вельмі паспяхова. Ёсць адзін палітычны дзеяч у Расіі, не магу зараз узгадаць, як яго імя, але ў народзе ён вядомы як «сарцірны мачыла». Дык вось, ён не хавае таго, што вядзецца тэрарыстычная вайна супраць тэрарызму.

Не ведаю, што вырашыць катарскі суд, але ўсё гэта падобна на наш почырк. Проста зараз хлопцы ці забылі, ці ніхто іх не вучыў, як трэба замятаць сляды. Непрафесійная праца – вось мая рэакцыя.

**Д.Х. Прэс-аташэ Службы знешняй разведкі з абурэннем заявіў, што Расія да замаху на Яндарбіева адносінаў не мае і што з 1959 года былое Першае ўпраўленне КДБ, а цяпер СЗР нічым падобным не займаецца.**

**В.С.** Гэта няпраўда. Любы д'ябал заўсёды пачынае з таго, што адмаўляе сваё існаванне. У тым і сіла д'ябла. Не могуць жа яны заявіць: «Так, мы сапраўды падпарадкуемся нашаму прэзідэнту і «мочым у сарцірах». Яны займаюцца забойствамі, і пра гэта дастаткова шмат вядома.

Напрыклад, балгарскі палітэмігрант Георгій Маркаў быў забіты ў Лондане ў 1978 годзе. Алег Данілавіч Калугін нават ганарыўся тым, што быў арганізатарам гэтай справы. Ён атрымаў за яе балгарскі ордэн і персанальны падарунак ад кіраўніцтва камуністычнай Балгарыі.

Актыўная праца супраць людзей, якія не падабаюцца пэўным рэжымам, заўжды вялася і будзе весціся. Неабавязкова людзей забіваць. Можна прыгадаць знакамітае выкраданне Артамонава, ён жа Шадрын. Гэтая падзея нават узгадваецца ў маім рамане «Акварыум»: «У нашых баявых сяброў вялікае свята сёння – выкралі чалавека».

Артамонаў быў марскі афіцэр, камандзір эскадроннага мінаноса, сышоў у Амерыку з Польшчы. Працяглы час працаваў у Амерыцы, потым яго заманілі ў Вену. Алег Данілавіч Калугін быў кіраўніком гэтага «праекту». Ён гэтага і не хавае. Артамонава выкралі, вывезлі ў Чэхаславакію, і там ён сканаў. Гавораць, па памылцы задушылі. Але прафесіяналы такіх памылак не робяць. Яго забілі.

Кіраўніцтву КДБ было карысна выкрасці гэтага чалавека і дапытаць, а выканаўцам было вельмі некарысна, калі б гэты чалавек аказаўся перад следчымі. Аднак, нават калі б яны яго і не забілі, выкраданне чалавека нашымі роднымі карнымі органамі раўназначнае смерці. Лепш памерці ў часе выкрадання, чым апынуцца на канвееры ў КДБ.

Прашу прабачыць, што мушу прыводзіць сябе ў якасці прыкладу. Існуе 18-серыйны фільм аба мне пад назвай «Апошні міф». Там ёсць такі эпізод. Стваральнік фільма Уладзімір Сінельнікаў бярэ інтэрв'ю ў Калугіна і пытае: «А Сувораў быў вашым кліентам?» – «Так, – адказвае той, – быў». – « А што ж вы яго не замачылі?» – «Не знайшлі. А калі б знайшлі, дык зрабілі б». І тлумачыць механіку. Яго справа была знайсці. А выканаўцы былі б іншыя. Гэта старажытны кітайскі метад – «забіць чужым нажом». Цяпер мы з Алегам Данілавічам Калугіным знаходзімся ў добрых стасунках.

**Д.Х. З Яндарбіевым, відаць, было тое ж самае.**

**В.С.** Відаць. Цяжка меркаваць аб тым, што там насамрэч было, але падзея цалкам укладаецца ў афіцыйную палітыку – «мачыць у сарціры». Ну і ў аўтамабілі таксама.

**Д.Х. Судзячы па таму, што Катар пайшоў на такі міжнародны скандал, падставы ў іх былі болей чым сур'ёзныя.**

**В.С.** Так, зразумела. Невялікая дзяржава заўсёды азіраецца па баках, раней чым распачаць якія-небудзь дзеянні супраць адноснa моцных дзяржаў. А Расія такой з'яўляецца. Відаць, у іх меліся падставы. З другога боку, арабскія краіны – пастаянныя аб'екты міжнароднай крытыкі. Маўляў, яны натхняюць і захавальнікі тэрарыстаў. Аказваецца дастаткова моцны ціск і на Саудаўскую Аравію, і на іншыя краіны, каб яны спынілі дапамогу тэрарыстам. Кіраўнікі нафтавых арабскіх дзяржаваў у рэгіёне Персідскай затокі знаходзяцца ў складаным становішчы. З аднаго боку, яны павінны гандляваць нафтай, атрымоўваць грошы, так што Захад мае на іх уплыў. З другога боку, існуюць радыкальныя ісламскія групоўкі, якія ў любы момант могуць пачаць нейкія дзеянні супроць іх. Кіраўнікі гэтых дзяржаваў павінны запэўніваць, што яны не падтрымоўваюць тэрарызм, і адначасна адкупліваца ад радыкальных груповак. Арышт расійскіх грамадзянаў па абвінавачванні ў тэроры палітычна ім вельмі карысны. Ён паказвае, што не толькі ад іх ідзе гэтая зараза. З палітычнага пункту гледжання для іх вельмі важна расследаваць гэтую справу.

**Д.Х. Вы лічыце, што замах на Яндарбіева – гэта нармальная тактыка расійскіх спецслужбаў, а па сутнасці расійскага кіраўніцтва? Ці можна сцвярджаць, што гэта ўсё сыходзіла ад Пуціна?**

**В.С.** Расія будзе адмаўляць свой удзел да апошняга. Але ж зусім нядаўна Пуцін заявіў, што «Расія з тэрарыстамі перамоваў не вядзе, яна іх знішчае». Гэты тэракт цалкам кладзецца ў рэчышча палітыкі Расіі. Тут не трэба высвятляць, дзе курыца, а дзе яйка. Нехта здзейсніў тэракт, мы ў адказ робім тэракт. Нехта кагосьці забіў, мы ў адказ таксама некага забіваем тым жа метадам, прычым на тэрыторыі замежнай дзяржавы. Такая гульня ніколі не прыводзіла да добрых вынікаў. Ёсць жа гістарычны вопыт.

Напачатку мінулага стагоддзя расійская ахоўная служба захапілася барацьбой з тэрарыстамі рукамі саміх тэрарыстаў. Там перакуплялі кіраўнікоў баявой арганізацыі эсэраў, напрыклад, Азэфа. Каб іх законспіраваць, ім дазвалялі праводзіць некаторыя акцыі, кагосьці забіць. У рэшце рэшт паліцыя сама заблыталася ў тым, хто тэрарыст, хто не і хто супроць каго змагаецца. Мне здаецца, што і зараз адбываецца страта арыентацыі. Няясна, хто на самой справе тэрарыст. Быць тэрарыстам вельмі дрэнна. Але скарыстоўваць тэрарыстычны метад у барацьбе з тэрорам – не лепш. Той клін гэтым не выб'еш.

**Д.Х. Ясна, што з маральнага пункту гледжання гэта абсалютна недапушчальна. Для Захаду ўсё тое, што адбылося, – шок. Асабліва пры сённяшніх добрых адносінах з Расіяй. А вось з практычнага пункту гледжання – якая, на ваш погляд, рэальная мэта Пуціна і ў якой ступені ён можа гэтай мэты дамагчыся?**

**В.С.** Цяжка сказаць, якія мэты ў Пуціна, але ясна, што нічога добрага з тэрарыстычнай барацьбы супраць тэрарызму не атрымаецца. Проста таму, што аб'екты тэрору адкрытыя – маскоўскае метро, тэатры... Абараніць іх немагчыма. А тэрарыст – ён нябачны. Апроч таго, такой рашучасці змагацца з тэрарыстамі, якая ёсць у іх саміх, у Расіі няма. Там людзі ідуць на самазабойства. А нашага чалавека паслаць на самазабойства не надта проста, мякка кажучы.

Таму калі мы ўцягваемся ў гэтую барацьбу па іхных правілах, дык мы асуджаны на паразу.

**Д.Х. А што значыць у дадзеным выпадку параза? Я не магу зразумець сэнс гэтай дзейнасці. Такім чынам вайну ў Чачні не закончыць. Гэтак яе можна толькі ўскладніць.**

**В.С.** Ва ўсіх размовах пра вайну ў Чачні я звычайна задаю адно і тое ж пытанне. Я кажу – панове, дайце мне аўтамат Калашнікава, я пайду ў Чачню, я буду іх забіваць. Толькі спачатку растлумачце мне, недарэчнаму, чаму з чачэнцамі нам будзе добра? Вось без іх нам дрэнна, а з імі будзе добра. Чаго вы дамагаецеся? Вы ж самі пішаце, што чачэнцы – бандыты, тэрарысты. Чаму вы жадаеце жыць з бандытамі і тэрарыстамі? Кажуць, што там гандаль рабамі. Чаму вы жадаеце жыць у адной кватэры з людзьмі, якія гандлююць рабамі?

Тады мне кажуць – ты не разумееш. Там жа нафта! Тут я прызнаюся, што нічога не разумею. Расіі нафта не патрэбна. Расія цяпер і без Чачні дабывае нафты болей, чым Саудаўская Аравія, болей за ўсіх на свеце. Вам нафты не хапае? Чаго толькі ў Расіі няма – золата, газ, алмазы... Вам ад гэтага лепш? Жыццёвы ўзровень падымаецца? Нехта між вамі гэтую чачэнскую нафту пароўну падзеліць? Не дастанецца вам нічога.

І тады мне кажуць – ты нічога не разумееш. Калі даць свабоду Чачні, дык і ўсе іншыя захочуць свабоды. Я адказваю – тады сітуацыю трэба кваліфікаваць інакш. Трэба шчыра прызнаць – Расія не жадае жыць пад уладай Масквы. А як інакш, калі дай свабоду – і ўсе распаўзуцца. І тады трэба разбірацца, чаму Расія не жадае жыць пад уладай Масквы. Тады трэба шукаць рашэнне ўсіх праблемаў менавіта ў Маскве, а не на перыферыі. Чаму так атрымоўваецца – ёсць адзін прэзідэнт, мы за яго ўсенародна і амаль што аднагалосна галасуем, а ледзь дай свабоду – і ўсе паўцякаюць. Той, хто так гаворыць, прызнае, што ўсё ў Расіі трымаецца на саплях і на крыві. Калі сітуацыя менавіта такая – давайце гэтую свабоду цяпер. На ўмовах Масквы. Не чакайце сітуацыі, калі печаныя птушкі пачнуць вас дзяўбсці. Калі ўскрайкі пачнуць аддзяляцца не на вашых умовах, а на сваіх уласных.

**Д.Х. Дзіўная рэч, па нямецкім тэлебачанні аб арышце расійскіх агентаў у Катары нават не ўзгадалі.**

**В.С.** Я таксама звярнуў увагу на тое, што брытанская прэса не ўзгадала пра арышт.

**Д.Х. Чым гэта можна патлумачыць? І яшчэ пытанне – чым пагражае Расіі гэтая падзея ў знешнепалітычным сэнсе?**

**В.С.** Захад, відаць, проста разгубіўся. Яны не ведаюць, як гэта паднесці. Калі абвінавачванні пацвердзяцца, то вялікі сябра Захаду Уладзімір Уладзіміравіч патрапіць у вельмі непрыемную сітуацыю. І ўсе ягоныя саюзнікі на Захадзе – а іх у яго шмат – таксама. Зараз усе робяць выгляд, што быццам нічога не прыкмецілі. Ідзе вайна супроць тэрарызму, і Расія адна з галоўных яе натхніцелек. Пасля 11 верасня Расія адразу ж знайшла агульную мову з Амерыкай. І раптам высвятляецца, што Расія нічым не адрозніваецца ад тых жа тэрарыстаў, скарыстоўвае тую ж тактыку, тыя ж прыёмы, тую ж філасофію. Захаду вельмі непрыемна ўсё гэта чуць.

**Д.Х. Прыгадваецца, што ўжо болей за год прайшло пасля тэракту на Дуброўцы, аднак пра ход і выніках афіцыйнага следства мала што вядома. Тут таксама могуць быць прыхаваныя самыя непрыемныя рэчы.**

**В.С.** Так, пра гэта мае сэнс паразмаўляць з Аляксандрам Літвіненкам. Ён назбіраў вельмі цікавыя матэрыялы. Там сляды відавочна вядуць зусім не ў тым напрамку, у якім хацелася б расійскаму кіраўніцтву.

**Д.Х. З аднаго боку, болей чым магчымы ўдзел спецслужбаў у замаху на Яндарбіева, а з другога – незразумелае нежаданне разблытваць сапраўдны тэракт, учынены чачэнцамі ў Маскве.**

**В.С.** Калі ён быў здзейснены чачэнцамі.

**Д.Х. Выканаўцы ж дакладна былі чачэнцамі.**

**В.С.** Але хто стаяў за імі? Тут цалкам мог спрацаваць той жа старадаўні кітайскі прынцып – «забіць чужым нажом». Самы распаўсюджаны метад вярбоўкі ў любой разведцы - «цёмная» вярбоўка. Напрыклад, лепшыя крыніцы інфармацыі для Сталіна заўсёды думалі, што працуюць не на савецкую разведку. Іх вербавалі ад імя, скажам, брытанскай разведкі. Выканаўцы былі чачэнцы, імі хтосьці кіраваў, гэтымі таксама хтосьці кіраваў. І хто там за кулісамі за нітачкі торгаў – з гэтым трэба разабрацца. Сляды вядуць напрасткі ў вышэйшыя сферы.

Дзмітрый
**ХМЯЛЬНІЦКІ**
*(Берлін)*
*Grani.ru*






# З нашага неба*краю*

Эдуарда Акуліна ведаюць як барда, як паэта, як аднаго з лепшых батлейшчыкаў на Беларусі, як намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Дзеяслоў», як намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, як... Словам, не пералічыць шматграннасці натуры гэтага чалавека і ўцягнутасці яе ў вір грамадскага адраджэнскага руху. Таму кожная сустрэча з Эдуардам, і усё роўна, у вялікай залі ці ў кабінеце, што ў будынку Дома літаратараў, – гэта заўсёды магчамасць адкрыць новыя перспектывы ўласных ведаў. Нагодай гэтай нашай сустрэчы стала «зачаканае» прыхільнікамі папаўненне творчай спадчыны.

**– Шаснаццаць гадоў, менавіта столькі мінула, як пабачыў свет Ваш першы зборнік. Не так даўно адбылася прэзентацыя апошняга, шостага. У 1995 і ў 2000 выйшлі два магнітаальбомы, у гэтым годзе аб'яднаныя ў зборнік «Напачатку была Песьня». Якой з прац, згодна з Вашымі ж крытэрыямі адзнакі, больш задаволены, якую лічыце наймацнейшай?**

– Працай, якой я больш задаволены як творца? Я не магу выдзеліць нейкую адну з іх: аўтару яго творы ўсеадно як дзеці. А ў сям'і ж заўсёды больш любяць таго, каго больш шкадуюць. Напэўна, таму мне больш сімпатычны зборнік «Радно». Прызнацца, зусім не чакаў, што яго напаткае такі лёс. Я ўпэўнены, што «макулатурная макруха» з гэтым маім зборнікам была спланаванай, прадуманай акцыяй, скіраванай на тое, каб такім чынам паралізаваць маё творчае «ego» і «падрэзаць» « паэтычныя» крылы...

**– Але, калі б планы зламыснікаў спраўдзіліся, сёння перад намі на стале не ляжала б ваша, спадзяюся, не апошняя творчая «справаздача» – зборнік вершаў « Непрычалены човен».**

– Так, але тады цэлы год я, сапраўды, не мог пісаць, быў у стане духоўнага катарсіса... Але хто аднойчы ўзяўся за пяро, а гэта значыць пабываў у нябёсах, той ужо ніколі не вернецца на зямлю. Таму і сілы самі сабой знайшліся.

**– А праўда, што з пяцісот экземпляраў «Радна» захавалася толькі дзесяць, і адзін з іх на прэзентацыі купілі па тых часах аж за сорак тысячаў рублёў?**

– Сапраўды, так атрымалася, што на сёння я аўтар, напэўна, самага рарытэтнага зборніка на Беларусі. А тады, падчас прэзентацыі, на імправізаваным аўкцыёне адзін з дзесяці паасобнікаў на ўвесь свой месячны заробак набыла загадчыца дзіцячага садка. Я нават памятаю яе прозвішча – Вікторыя Петраш. Для мяне падобны ўчынак ёсць лакмусавы індыкатар, які яскрава паказаў, што і беларуская паэзія мае свой кошт.

**– Ці збіраецеся перавыдаваць зборнік?**

– Збіраюся. Праўда, калі— не ведаю. Зараз, каб выдаць такі зборнік у прыватным выдавецтве, патрэбна не менш за пяцьсот даляраў...

**– Раскажыце пра свае планы.**

– Я не люблю планаваць сваю будучыню: жыццё само ўсё сплануе. Бог вядзе нас тымі пуцявінамі, якія ён для нас выбраў.

**– Тады над чым працуеце зараз?**

– Шмат перакладаю з украінскай мовы. Перастварыў па-беларуску паасобныя вершы Рамана Лубкіўскага, Ліны Кастэнка, Уладзіміра Сасюры, Рамана Скібы... У перспектыве, магчыма, будзе кніга.

**– Тым не менш, часткова вернемся да першага пытання. Усё ж вельмі цікава, па якім прынцыпе адбіраеце творы ў свае зборнікі і што шануеце ў творах іншых аўтараў?**

– І ў сваіх, і ў творах іншых аўтараў вельмі шаную гармонію формы і зместу. Гэта, дарэчы, было самым важным і для Максіма Багдановіча.

**– Ці толькі таму яго называеце сваім духоўным бацькам? Чаму, напрыклад, Максім, а не Янка, Францішак ці Ларыса?**

– Ён мне больш блізкі па духу. Менавіта ён адкрыў мне Беларусь, яго «Зорка Венера» запаліла мне святло Беларушчыны.

**– Гэта адбылося пасля таго, як Вы напісалі свой першы верш «Родина»?**

– Так, гэты верш я напісаў у дванаццаць год, а з творчасцю Багдановіча сустрэўся ў восьмым класе. З тае пары даў сабе слова больш ніколі не пісаць па-руску.

**– У адным інтэрв'ю Вы распавядалі і пра тое, што за часамі вучобы ў Гомельскім універсітэце разам з хлопцамі, з якімі стварылі рок-гурт «Баскі», далі слова, «дзе б ні былі, як бы не жылі, гаварыць толькі па -беларуску». Тады і верш, што стаў Вашым жыццёвым крэда, напісаўся, а ў ім такія радкі - «Як ісціну помні адзіную – Мова, Народ, Радзіма». У сваіх вершах, і ранніх, і апошніх, Вы сцвярджаеце, што беларусам жылося і жывецца так цяжка, таму што гэтую ісціну мы пакуль так і не спасціглі.**

– Але не сам народ у гэтым вінны, хутчэй гістарычныя абставіны. Пасля Залатога веку ВКЛ мы мелі трыста гадоў духоўнай акупацыі. Народ трэба «разбудзіць». Калі б мы не гублялі сваёй незалежнасці ад часоў ВКЛ...Каб не духоўная «нівеліравацыя» культуры за савецкім часам...

**– Але давайце возьмем нашых суседзяў, літоўцаў ці украінцаў...**

– Так, літоўцы, ці дакладней жмудзіны, якія вучыліся ад нас культуры, ужо апярэдзілі нас на сто гадоў. Сёння, каб апекаваннем нацыянальнай культурай у нас займалася Дзяржава, многае б было па-іншаму.

**– Шмат пытанняў задаюць падчас сустрэч і вечарын. У Вашым перакладзе верша «Костка» Ёнаса Зданіса чытаю: «... У пакоі жанчынамі поўным на пытанні адны і тыя ж я стаміўся адказваць зноўку...» А ці задавалі такое пытанне, што было не з катэгорыі «адны і тыя ж» і запомнілася надоўга?**

– Мне запомнілася іранічнае пытанне, якое на адной з нядаўніх сустрэчаў у Магілёве задаў шасцікласнік: « Ці ёсць у Вас мабіла і мэрс?» Пасля пачутага пра паэзію, ён зрабіў сваю выснову: « Калі паэзія сапраўды такая каштоўная рэч, усе паэты павінны быць заможнымі людзьмі...»

**– Хутка, 21 сакавіка, Міжнародны Дзень паэзіі. Што пажадаеце нашым, беларускім, творцам?**

– Жадаю натхнення. Яго не купіш, як можна купіць асадку ці кампутар. Натхненне даецца і адбіраецца. Гэта дух Гасподні, які сыходзіць на творцу і які яшчэ трэба заслужыць.



**– Ці правамерна ў Ваш адрас казаць, што вершы пра каханне нараджаюцца ад нешчаслівага кахання? Большая частка Вашых вершаў пра гэтае «небаўзнёслае» пачуццё аптымістычныя.**

– І ў адносінах да маёй творчасці гэта выказванне цалкам правамернае. Паэзію ў маёй душы абудзіла якраз нешчаслівае каханне. Са сваім першым Каханнем я растаўся на выпускным школьным балі аж на бясконцых пяць гадоў. Гэта была сапраўдная трагедыя, якая, аднак, скончылася шчасліва...

**– Таму зараз Вы пішаце светлыя і жыццярадасныя вершы?..**

– Не заўсёды. Гэта залежыць, я б сказаў, больш ад стану душы, ад таго, як глядзець на свет. А потым, ёсць такое паняцце, як мастацкі вымысел. Калі паэт не сягае далей свайго жыццёвага вопыту, ён непазбежна ўпіраецца ва ўласную творчую столь. Добра, калі ён знойдзе ў сабе сілы «ўзламаць» яе. Калі ж не – паэта чакае немінучая творчая смерць...

**– «...Нібы сапёру памыліцца, – паэту паўтарыцца раз...». Што яшчэ падобна смерці для паэта?**

– Няшчырасць. Сапраўдны чытач яе адразу адчуе. Можна навучыцца рыфмаваць, але калі няма паэтычнага слыху, адчування характва, у рэшце рэшт, сусветнай самоты, бо служэнне каму-небудзь, акром свайго сумлення, забівае ў творцы асобу і наадварот. Усё пералічанае ўваходзіць, як мне здаецца, у такі чыннік, які мянуецца талентам. Да вяршыні якога даходзяць толькі геніі...

**– Каго з сучаснікаў Вы рызыкнулі б назваць геніяльным творцам?**

– Уласна для мяне ім з'яўляецца Рыгор Барадулін.

**– Зусім нядаўна адбылася прэзентацыя апошняга Вашага зборніка «Непрычалены Човен». Човен як паэтычны вобраз сустракаецца і ў Вашых ранніх творах: «човен кахання», «човен пяшчоты», «човен-сонца жалобны промень» і г. д. Што такое «човен» у названым зборніку? Да якога, калі верыць анатацыі, «згубленага», берага ён імкнецца?**

– Як не дзіўна, для мяне човен – біблейскі сімвал жыцця, якое яшчэ не завершана, таму і човен, а дакладней «каўчэг», пакуль не прычалены. Мая паэзія жыве між двух берагоў.

**– Паміж «Труной-айчынай,...і для народа свайго турмой», «Нас няма, беларусы! Не было і няма!» і паміж «Мы, беларусы. Мы – ёсць! Мы – будзем!»?**

– Так. У зборніку човен – абсалютны паэтычны субстант. Я хацеў бы, каб ён плыў не ў Лету, а ў лета... чалавечых пачуццяў. Бо, калі ён прыб'ецца, закончыцца шлях паэта, і тады апошнім прычалам павінна стацца Беларусь, мая Крывія.

**– У гэтым зборніку вы паставілі, але так і не адказалі на пытанне, як усё ж не страціць паэту ў коле будзённай паўсядзённасці свае крылы? Асабліва пасля прачытання вершаў «Як вярнуць?..» «Пасьпець» міжвольна пачынаеш задумвацца над тым, «як вярнуць крылам згублены небакрай»?**

– Паэты страчваюць свае крылы тады, калі будзённае іх пачынае хваляваць больш за духоўнае. А жыццё ў паэтаў сёння няпростае. Раней выпусціў кнігу, атрымаў ганарар – і можаш хоць і тры гады працаваць над наступнай, не думаючы пра хлеб штодзённы. Як птушкі, якія зімой адлятаюць у вырай. Людзей жа такое жыццё ламае, нехта пачынае піць, хтосьці пераходзіць на прозу. Дзякуй Богу, я пакуль не запіў і на прозу не перайшоў.

**– «... Душы патрэбны адпачын, каб загарэцца новым вершам...» Што такое адпачын для душы?**

– Складанне вершаў – гэта не рамесніцтва, а мастацтва. Душа творцы – не «такарны» станок, таму павінна «посціць», іншымі словамі, гавець або адпачываць.

**– Як адпачывае Ваша душа?**

– Я люблю прыроду. Хаджу на паляванне...

– ?..

– Насамрэч – на свае ўражанні. Калі жыў на Палессі, мог гадзінамі блукаць па лясох і балотах у пошуках ўражанняў для новага твора. Жывучы ў горадзе, зрабіць гэта складана. Але я імкнуся, каб у жыцці былі такія моманты, якія здалёк успамінаюцца як «сапраўднае шчасце». А яшчэ чытаю. Тады душа наталяецца святлом чужога азарэння.

**– Тое ж адбываецца, напэўна, і падчас перакладання твораў іншых аўтараў? Другая частка «Непрычаленага чоўна» ўключае пераклады літоўскіх і ўкраінскіх паэтаў. Але я ведаю, што яшчэ ў 1996 годзе Вы пераклалі з нямецкай твор Міры Лобэ «Маленькая я – гэта я». Ці маюцца яшчэ пераклады, так бы мовіць, далёказамежных аўтараў?**

– На жаль, не.

**– А што ёсць для вас пераклады? Можа яны, сапраўды, той самы «творчы пост», пра які толькі што распавялі?**

– Так, у нейкай ступені. Звычайна бярэшся за пераклады, калі не пішацца сваё. Такая дзейнасць – выдатная магчымасць «нарасціць» творчую «мускулатуру». І гэта ўдзячная праца. Бо лічу, што добры пераклад – гэта супраца двух творцаў, у працэнтных адносінах – недзе 50х50. Хоць разумею, што гэтым сваім меркаваннем наклікаю на сябе высакародны гнеў нашых літаратурных крытыкаў і анталагістаў.

**– Якія вершы зборніка «Непрычалены човен» з'яўляюцца для Вас канцэптуальнымі?**

– «Мова», «Авэ, Марыя», «Як вярнуць», «Балада пра краіну Мару», «Заміж эпітафіі».

**Авэ, Марыя**

*Памяці маці*

Час прайшоў за грахі вініцца...
Памяць паліць гады на тло.
Ды часьцей стала мама сьніцца -
не сама, а яе Сьвятло.

Мне на гэта Сьвятло маліцца –
покуль будзе мой шлях відзён...
– Мама, імя тваё сьвяціцца –
хай ад сёння-да скону дзён.

Гэта ж ты мяне нарадзіла.
Што змагла-то ў жыцці дала...
Ты і ёсць для мяне Радзіма.
Не прывыкну казаць – была.

**Балада пра Краіну-мару**

Мы, беларусы, – заўжды
гатовы
снапамі класьці свае галовы.
Было спакон так і гэтак будзе –
такі народ мы, такія людзі.

Наш час спыніўся
між дзьвюх Нямігаў,
дзе кроў і сёння стаіць па
грудзі...
Мы, беларусы, народ ад ліха,
ад Бога – толькі сьвятыя людзі.

Яны былі ў нас, былі і будуць –
Рагнеда, Янка, Максім,
Ларыса...
Мы, беларусы, – народ
аблудлы –
сваёй радзінай не ганарымся.

У нашых душах гуляе вецер...
Каму мы служым?
Чые мы дзеці?
На храмах нашых маўчаць
званіцы.
Нямая вера – як нам маліцца?

Як даравання прасіць у Бога,
каб Ён вярнуў нам сябе самога.
Хрыстос калісьці хадзіў
між намі...
Мы, беларусы, – Яго прагналі.

З нас, беларусаў, яшчэ
спытаюць –
за лёс Страціма, за сімвал
Краю.
Чаму ў сэрцы з такім адчаем
нас б'е Пагоня – сячэ мячамі...

Мо беларусы, мы – янычары?

Чацьвёрты кожны
з нас стаў зямлёю...
Чарнобыль чыніць над намі
кару,
Мы, беларусы, сваёй крывёю
сабе здабудзем Краіну-мару.

Краіну-мару,
дзе мы ўваскрэсьнем
як сонца з хмары, як мова –
з песьні.
Краіну-мару сабе здабудзем
мы, Беларусы.
Мы – ёсьць!
Мы – будзем!

Гутарыла
Алеся МАТУСЕВІЧ

# Блюз Шалкевіча






У Мінску з вялікім поспехам адбылася прэзентацыя новага альбома знанага гарадзенскага барда і акцёра Віктара Шалкевіча. Гэты дыск названы па-рэнесанснаму кваціста, у духу старасвецкіх дыярыюшаў: «За сто крокаў ад вострае Брамы, альбо геаграфія ВКЛ і ваколіцаў». І не здарма. Бо на яго трэках захаваныя пачуцці музыкі, якія спаткалі яго падчас вандровак з Гародні ў Вільню, Нясвіж, Койданава, у Мінск і іншыя знакавыя мясціны роднага краю.

А дапамаглі зафіксаваць гэтыя пачуцці на лічбавых трэках дыска знакамітыя гарадзенскія музыкі – клавішнік Анатоль Кандыба, гітарысты Яўген Шчарбакоў і Федар Жыляк, бубнач Мікалай Хрысьціч, басіст Вячаслаў Банкевіч, скрыпачка Люсьена Банкевіч, трубач Георгі Белавусаў, кларнетыст Уладзімір Міхновіч, віяланчэлістка Валянціна Калініна ды іншыя. На прэзентацыі ж у Палацы ветэранаў Віктару Шалкевічу вельмі чула дапамагалі Анатоль Кандыба (фартэпіяна) і Вячаслаў Банкевіч (кантрабас). Усе разам стварылі своеасаблівую атмасферу хатняга канцэрту, музыцыравання ў сяброўскім коле.

Праграма канцэрта распачалася настальгічнай песняй «За сто крокаў ад Вострае Брамы» – прызнаннем барда ў любові да Вільні, геаграфічныя і гістарычныя рэаліі якой у Віктара Шалкевіча, можна сказаць, «прайшлі» праз сэрца. Песня-прысвячэнне, песня-напамін пра беларускае мінулае горада-калыскі нашага Нацыянальнага Адраджэння.

«У Гародні дождж» - блюз, які нараджаны на родных вуліцах Віктара. Пачуццёвасць песні падкрэслена не толькі блюзавай гармоніяй, але «хэмандаўскім» гучаннем клавішных інструментаў. У мінскіх слухачоў адразу знайшоў водгук такі Шалкевічаў пасаж: «Сцяна дажджу няспынна большала/ Нібы крыжацкая навала./ Да ніткі змоклі, да апошняе/ Ажэшка, Ленін і Купала.../»

Трэба адзначыць, што кожная песня новага альбома на канцэрце суправаджалася артыстычнымі спічамі Віктара, якія, у сваю чаргу, маглі б стаць добрым дадаткам да фанаграфічных прац артыста. Адным з такіх шэдэўраў беларускага размоўнага жанру было аздоблена гумарыстычнае «Патрыятычнае танга «Цнота», у якім музычнымі сродкамі намаляваны рэаліі гарадзенскага жыцця, што называецца, «за польскім часам». Гэты твор мае асаблівы статус на дыску, бо будзе зразумелы і беларускаму слухачу, і польскаму: у песні гучыць шмат прыстойнай польскай мовы. А «крэсовы» сэнс шансона даходзіць да слухача са смехам праз слёзы...

Увогуле ББББ (бацька беларускага бруднага блюза), як яго клічуць некаторыя адмыслоўцы, вырашыў запоўніць і гэты альбом шматлікімі блюзавымі тэматамі: дэпрэсіўна-жыццесцвярджальная «Вясна» змяняецца настальгічным «Блюзам былога Ленінскага праспекту», сатырычны «Zajtshik blues» дапоўнены гратэскавым «Вызваленчым блюзам».

Кантраверсыўнымі да «бруднага» блюзу, які актыўна выкарыстоўвае Віктар Шалкевіч, можна назваць кабарэтовыя зонгі. «Арыя «Пане Каханку» – бадай адна з самых яскравых кабарэтак на дыску. Атрымала яна прызнанне слухачоў і на канцэрце-прэзентацыі. У песні неверагодным чынам спалучыліся жанравыя замалёўкі з натуры і фантастычныя разважанні Пане Каханку, які з вакон Нясвіжскага палацу быццам бы назірае на бязладдзе тутэйшага жыцця, якое ўсё больш апаноўвае нашу еўрапейскую краіну. Валадар палацу не толькі сочыць за тым, што адбываецца навокал, але і прапануе свае выйсце са становішча. Якое? Пра гэта вы даведаецеся, калі пазнаёміцеся з арыяй. Зноў смех праз слёзы гарантаваны!

«Ты сыходзіш у Койданаве» – адна з лірычных пярлін альбома, аранжаваны ў «сонечным» стылі рэгтэй. Цяпер, упэўнены, шчымлівы сум па згубленым першым каханні будзе суправаджаць кожнага слухача, калі той будзе праязджаць знакамітую станцыю на электрычцы «Мінск–Баранавічы» і успомніць гэтую мелодыю Шалкевіча.

Безумоўна, адна з «каронных» тэмаў Віктара Шалкевіча – тэма эміграцыі. «Juden Tango» прысвечана тэме ад'езду яўрэяў з Беларусі: «Пачакайце Жыды, пачакайце,/ Пераменіцца час і атлас./ Не ўцякайце Жыды, не ўцякайце,/ Бо вельмі цяжка на свеце без вас!» Заўсёды на канцэртах Віктар перапрашае слухачоў за яго звяртанне да яўрэяў – «жыды», тлумачачы гэта мясцовай традыцыяй. Але, думаю, што ў Беларусі няма такога чалавека, які б слухаў гэтую цудоўную песню і не разумеў цёплых адносін Шалкевіча да людзей гэтай нацыянальнасці.

Беларускую эміграцыйную тэматыку В. Шалкевіч працягвае песняй «Кася». Так, цяперашняя беларуская эміграцыя – эканамічная. Але сум па «беднай Касі, якая на Брукліне забаўляе жыдоўскіх дзяцей» у аўтара не праходзіць да гэтага часу. Песня – ліст на той бок Атлантыкі з прапановай успомніць маладыя гады жыцця і надзеі на лепшае жыццё ў Беларусі.

Новы альбом барда і акцёра Віктара Шалкевіча – сапраўдны фірменны прадукт: запісаны ён у варшаўскай студыі «Lechton», а выдадзены на прадпрыемстве польскай фірмы «Megaus». Да таго ж галоўным інфармацыйным спонсарам навінкі з'яўляецца Беларуская Рэдакцыя Radio Polonia. Гэта выдатна, што бард асвойвае альтэрнатыўныя шляхі выдання беларускіх дыскаў. Такі вопыт дае магчымасць параўнаць якасць, тэрміны выканання і кошты накладаў дыскаў. Гэта дапаможа беларускім выдаўцам рэальна ацаніць выгоды ўсходняга і заходняга напрамку размяшчэння заказаў на выданне беларускай музычнай прадукцыі.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# *«Тэзаўрус» для перамогі Дабра*

Хрысціянская рок-музыка – з'ява слухачам вядомая і прызнаная ў свеце, што мае свае неаспрэчныя вяршыні. Не будзем арыгінальнымі, калі ў гэтай сувязі ўспомнім сусветнавядомую рок-оперу Э. Л. Вэбэра і Ц. Райса «Ісус Хрыстос – суперзорка». У Беларусі таксама гэты музычны напрамак мае развіццё. Слухацкае прызнанне атрымалі хрысціянскі альбом А.Камоцкага і Р.Барадуліна «Псальмы», супольны альбом «Сьвяты вечар», запісы гурта «New cosmopolis»...

Але ў нас назіраюцца і свае супярэчнасці развіцця плыні: некаторыя выканаўцы хрысціянскай рок-музыкі («Новый Иерусалим», «Исаия», Д.Даукш), ігнаруючы Боскае Беларускае Слова, адносяць сябе да веруючых прадстаўнікоў хрысціянскай рок-музыкі. Самая важная «адмазка» нежадання звяртацца да беларусаў на іх роднай мове: маўляў, патрэбна спачатку данесці Боскае Слова, а пасля думаць, на якой мове гэта рабіць. Але найбольш «разоткровенничался» «Музычнай газеце» (№9, 2000) гурт «Исаия», музыкі якога на пытанне карэспандэнта чаму ў рэпертуары гурта няма песень на беларускай мове, адказваюць пытаннем: а колькі людзей у нашай краіне размаўляюць на беларускай мове? Знаёмыя аргументы з арсеналу «крутых» (як яны сябе лічаць) зорак мясцовай эстрады, якія арыентуюцца толькі на камерцыю, на прывідны поспех у Маскве... А як жа знакамітая біблейская парадыгма: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога...»? Напэўна, грэбаванне тым, што даў нам сам Бог – беларускай мовай – і ёсць самы сапраўдны грэх! Цяпер яго можна выправіць толькі праз пакаянне...

Добра, што гэтым нехрысціянскім тэндэнцыям у Беларусі ёсць сапраўдная альтэрнатыва. Маю на ўвазе творчасць маладога хрысціянскага гурта «Тэзаўрус», які прадстаўляе сваім слухачам свой дэбютны сямідзесяціхвілінны (!) альбом «Аднова тэзаўруса». Некалькі слоў пра назву гурта. Як сведчыць «Беларуска-рускі музычны слоўнік», «тэзаўрус – (ад грэчаскага «скарб») набор замацаваных у памяці чалавека слядоў яго мінулых уражанняў, сувязяў, і адносін, якія могуць зноў ажывіцца пад уздзеяннем музычнага твора». І вось музыкі хрысціянскага гурта паставілі перад сабой задачу ажывіць у свядомасці слухачоў тыя каштоўнасці, якія спрадвеку былі скарбам беларусаў – Бог, Айчына, Мова...

Першы альбом гурта «Аднова тэзаўруса» ў гэтым сэнсе пастановачны: лірычны герой крок за крокам спасцігае сэнс чалавечага жыцця, месца ў ім Веры як сродку ратавання яго бессмяротнай душы, а таксама месца існавання і апошняга прыстанку іх душы – роднай Беларусі і спрадвечнай беларускай мовы. У гэтым сэнсе праграмным творам з'яўляецца аднайменны твор «Аднова тэзаўруса» (верш В. Мартыненкі): «Дык не губляй тэзаўрус/ Свой знайдзі ў ім знак/ Абарані тэзаўрус/ Вернеш ты годнасць так!»

Трэба адзначыць, што для стварэння пераканаўчых музычных вобразаў музыкі гурта «Тэзаўрус» выкарыстоўваюць самыя сучасныя стылістычныя напрацоўкі з арсеналу хард- і арт-рока («Гармідар дзён», «Бог любіць»), hardcore і grunge («Дрыгва», «Маска», «Выбірай») і ў той жа час, не забываюць на меладычную аснову сваіх кампазіцый, складаную шматгалосную яе распрацоўку (лідар-вакаліст Віктар Козел, вакаліст Мікола Пташнікаў). Тут трэба вылучыць такія кампазіцыі новага CD, як «Ерусалім» (на верш Р. Барадуліна), «Ключы ад раю», у якіх адбываецца сапраўдны сінтэз багатай мелодыкі, складаных аранжыровак і вакальных партыяў.




Не цураюцца музыкі і такога няпростага ў выканаўчым плане жанру як інструментальная п'еса («Сола душы»), у якой цудоўна гучыць лідар-гітара Міколы Пташнікава. А ў разгорнутай баладнай кампазіцыі «Ерусалім», акрамя вакалістаў, зіхацяць сваім выканаўчым майстэрствам клавішнік і скрыпач Арцём Крышчановіч. У астатніх кампазіцыях гэтага альбома добрымі памочнікамі салістам з'яўляюцца інструменталісты гурта: гітарыст Зміцер Гошка, басіст Паўлюк Сучынскі, бубнач Аляксандр Валошчык.

Эмацыянальным пікам альбома «Аднова тэзаўруса» па праву можа лічыцца кампазіцыя, прысвечаная пакутніцкаму лёсу Ісуса Хрыста і яго Боскаму чыну – «Гісторыя», пасля праслухоўвання якой у прыхільнікаў хрысціянскай рок-музыкі, упэўнены, з'явяцца дадатковыя аргументы ў спрэчцы са скептыкамі. Тое ж можна казаць і пра песню «У палоне ілюзіяў», у якой праз лёс храмаў і роднай мовы прасочваецца лёс усёй нашай краіны.

Завяршае альбом манументальная кампазіцыя «Армагедон» (менавіта пад такой назвай гурт пачынаў сваю музычную кар'еру). Гэта песня сімвалізуе вялікую бітву паміж Дабром і Злом, якую спрадвечна вядзе ў сваёй душы кожны чалавек: «Лунае лямант, гэта ён – Армагедон, Армагедон/ Святых мячоў і дзідаў звон./ Апошняй жарсці перакон – Армагедон, Армагедон/ Душы згібелай горкі стогн./»

Застаецца дадаць тое, што свой дэбютны альбом гурт «Тэзаўрус» запісаў на студыі парафіі Маці Божай Фацімскай, што ў Баранавічах.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Скінства



**Дасье.** *Першымі ўзніклі ў Маскве «Blood&Honor – Русский филиал» (B&H) і «Скінлегіён». B&H – гэта міжнародная арганізацыя нацы-скінаў, у некаторых краінах яна афіцыйна забаронена як экстрэмісцкая ці фашысцкая. У 1988 г. да іх дадалася трэцяя буйная арганізацыя – «Объединенные бригады 88» («ОБ 88»), узніклыя шляхам зліцця невялікіх скін-групаў «Белыя бульдогі» і «Лефортаўскі фронт». Назва ў брыгад знакавая: 88 – гэта парадкавы нумар двух «Н» у нямецкай азбуцы, гэта значыць «Heil Hitler!». Усяго з 1997 года скінхеды ў Расіі забіты найменш 54 чалавекі, не менш за 15 тысяч былі паранены ці атрымалі цяжкія пабоі, скінхеды арганізавалі 9 пагромаў, 4 напады на сінагогі, 1 падпал і 1 падрыў сінагогі, апаганілі габрэйскія і армянскія могілкі ў 8 гарадах. Агульная колькасць зафіксаваных інцыдэнтаў з удзелам скінхедаў дасягае 35.000.*

Факты злачынстваў, здзейсненых на нацыянальнай і рэлігійнай глебе, як звесткі аб надвор'і – мы пра іх чуем штодзённа. Быццам каналізацыю прарвала – патокі скінства затапілі гарады і вёскі краіны. Дзе мы сёння стаім? На пытанні аглядальніка «Новай газеты» **Галіны Мурсаліевай** адказвае вядомы псіхолаг, прафесар, загадчык кафедры псіхалогіі асобы МДУ **Аляксандр Асмолаў**.

– Дыягностыка, якая праведзена ў рамках федэральнай праграмы талерантнасці, паказвае рост сацыяльнай напружанасці. Болей за тое, засведчана, што жорсткасць, нецярпімасць, агрэсія ўспрымаюцца цэлым шэрагам групаў насельніцтва як норма. Грамадства рухаецца па шляху падтрымкі пашырэння рэпрэсіяў, забойстваў як нормы жыцця ў Расіі.

**– Як вы лічыце, ці разумеюць гэта ўлады? Здагадваюцца, што харчавальны булён для фашызму ў сапраўдны момант надзвычай насычаны?**

– Усе факты выкладзены ў лісце на імя прэзідэнта Пуціна, даведзены ў рамках Праграмы талерантнасці ўраду – усё выслухоўваецца з унікальнай абыякавасцю. Проста дзіўная сляпата да навуковых даследаванняў, якія зафіксавалі новую сітуацыю ў Расіі – сітуацыю пераўтварэння жорсткасці і агрэсіі ў правіла расійскага жыцця.

**– Вы можаце растлумачыць прыроду гэтага пераўтварэння? Вось мы ведаем, што група дужых скінаў напала на маленькую дзяўчынку, «гераічна» забіла яе, і ведаем, што 30 адсоткаў пііцерцаў спачуваюць «героям».**

– Болей за 40% падлеткаў краіны не бачаць у дзеяннях экстрэмісцкіх групаў нечага асаблівага. Паверце, гэта больш сур'ёзна, чым піцерскія злачынствы. Аб прыродзе пераўтварэння: мы маем сёння дзеянні праваахоўных органаў, якія яўна і прама падтрымліваюць і ўхваляюць учынкі, звязаныя з нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасцю.

**– Пагром у Ясеневе, іншымі словамі, суд цалкам апраўдаў?**

– Не проста апраўдаў – ён ухваліў! Давайце азірнемся ў нядаўняе мінулае – і мы ўбачым, што людзі, якія вялі краіну па лініі канфліктаў, знаходзяцца цяпер у Думе.

**– Як вы прагназуеце сёння сітуацыю, фашызм у Расіі – гэта рэальна?**

– Я не хачу апынуцца ў ролі прарока будучых рэлігійных і нацыянальных канфліктаў, але магу сказаць: яшчэ некалькі ўзрушэнняў – і сітуацыя выйдзе з-пад кантролю. На пярэдні план выходзяць групы, якія падтрымліваюць нацыянальную рыторыку, скарыстоўваюць шавіністычныя матывы. Скінхеды – гэта толькі пена на паверхні нацыянал-рэлігійнага валу, які каціцца на нас.

**– А імунітэт? 30 працэнтаў ці нават 40 – гэта яшчэ не ўсё грамадства. У большасці іншыя нормы...**

– Той працэнт, які мы з вамі называем, – гэта ўжо набліжэнне навальніцы, і яна можа пачацца ў любы момант. Нецярпімасць, агрэсія, бясправе як норма жыцця для такой колькасці людзей – гэта больш сур'ёзна, чым нават усведамленыя дзеянні палітыкаў любога рангу, пачынаючы з прэзідэнта.

*NovajaGazeta.ru*

## Таямніцы веры

# Колькі вернікаў у розных краінах

По замове праграмы Бі-Бі-Сі -2 «Што свет думае пра Бога» было праведзена апытанне 10.000 чалавек у 10 краінах – Брытаніі, ЗША, Ізраілі, Індыі, Паўднёвай Карэі, Інданезіі, Нігерыі, Расіі, Мексіцы і Ліване.

Крайнай з найбольшым узроўнем рэлігійнасці з'яўляецца Нігерыя – там 98% апытаных заявілі, што заўсёды верылі ў Бога. Інданезія з невялікім адрывам ідзе на другім месцы – там гэты паказальнік складае 97%. У Брытаніі 46% рэспандэнтаў паведалі, што заўжды верылі ў Бога. Толькі ў дзвюх краінах – Расія (42%) і Паўднёвая Карэя (28%) – гэтыя паказчыкі ніжэйшыя.

Брытанія займае перадапошняе месца і з пункту гледзішча ўдзелу ў рэлігійных цырымоніях – толькі пятая частка апытаных заявіла, што яны наведваюць царкоўныя службы, наогул царкву наведваюць не болей 8% насельніцтва. У Расіі гэтая лічба яшчэ менш – 7%.

У Індыі і Ліване 92% апытаных заявілі, што заўсёды верылі ў Бога, у Мексіцы – 83%, у Ізраілі – 71%. У Нігерыі, Інданезіі і Ліване дзевяць з кожных дзесяці апытаных лічаць, што іхны Бог з'яўляецца адзіна сапраўдным Богам, у Ізраілі такую заяву зрабілі сем з дзесяці апытаных, а ў Брытаніі - тры.

Чацвёра з дзесяці рэспандэнтаў у Брытаніі лічаць, што Бог судзіць іх дзеянні і чын жыцця. Па ўсім свеце аналагічный думкі трымаюцца ў сярэднім сем з дзесяці апытаных. Апроч таго, апытанне паказала, што толькі 52% брытанскіх рэспандэнтаў лічаць, што сусвет стварыў Бог, у ЗША вераць у Божае паходжанне сусвету 85%, у Мексіцы – 83%, у Ліване – 96%, у Інданезіі – 99%.

На пытанне ці гатовыя яны памерці за Бога ці за сваю веру, у Брытаніі станоўча адказалі 19%, у Ізраілі – 37%, у Інданезіі і Нігерыі – 90%, у ЗША і Ліване – 71%. Трэціна брытанцаў заявіла, што без рэлігіі жыць у свеце будзе больш спакойна, але толькі 6% амерыканцаў, 11% ізраільцянаў і 9% індыйцаў згодныя, што без рэлігіі жыццё на планеце было б больш мірнае.

**The Times**

# Уладзімір Вайновіч:
# *«Салжаніцын недастаткова разумны чалавек»*

Мелася сумная падстава затэлефанаваць Уладзіміру Вайновічу: зусім нядаўна памерла жонка пісьменніка, маці ягоных трох дзяцей, цудоўная жанчына з добрым сэрцам. Я прапушчу пачатак (сумны) нашай размовы і перайду да канструктыўнай часткі.





**– Уладзімір Мікалаевіч, мы бачыліся з вамі ў Маскве два гады назад, якраз у момант выхаду вашай кнігі «Партрэт на фоне міфа», «прысвечанай» Салжаніцыну. Магчыма, двукоссе ў дадзеным выпадку і не да месца: у кнізе сапраўды апавядаецца пра ўплыў Салжаніцына на вашае жыццё і на жыццё цэлага пакалення савецкіх людзей. Але шмат у той кнізе ёсць і негатыўнага ў адносінах да Аляксандра Ісаевіча. Да вас не сталі горш ставіцца вашы чытачы – паклоннікі Салжаніцына.**

– Праціўнікаў гэтай кнігі было нашмат меней, чым праціўнікаў майго рамана «Масква 2042». Кнігі гэтыя вельмі розныя. Хоць былі і такія чытачы, якія пыталіся: нашто я напісаў другую кнігу аб Салжаніцыне? А я сцвярджаю, што першую кнігу пісаў не аб ім. Яна ўяўляла сабой пародыю, і не толькі на яго, прычым пародыю добразычлівую. Але Салжаніцын быў пазнавальны, таму людзі абураліся: як я мог гэтак пра класіка!.. А я пісаў, паўтаруся, не пра Салжаніцына, а пра выдуманы персанаж. Але гэта – звычайная гісторыя, і людзі ніяк не могуць зразумець, што пародыя чалавека не крыўдзіць, а калі здаецца адрасату крыўднай, дык ён мусіць падумаць аб сабе (аб сваім пачуцці гумару. – **У.Н.**)

**– Салжаніцын, здаецца мне, дастаткова разумны чалавек, каб не крыўдаваць на пародыю.**

– Ён зусім недастаткова разумны чалавек. Ён сябе пазнаў і апублікаваў у адным з расійскіх часопісаў («Новый мир». – **У.Н.**) адказ мне, які называецца «Пагапіла зерне між двух жорнаў». Я, на яго думку, такі-сякі, напісаў пра яго тое-сёе... Пра гэта я падрабязна пішу ў «Партрэце на фоне міфа». Кляўрэты Салжаніцына сцвярджаюць, што я напісаў «Партрэт...» з зайздрасці, нянавісці і яшчэ з нейкіх дробных пачуццяў. А я напісаў яго таму, што Салжаніцын сыграў агромністую ролю ў свядомасці мноства людзей і нават у маёй асабістай. Пры з'яўленні першых твораў Салжаніцына я адчуў вялікую радасць, а потым – вялікае расчараванне. І зараз стаўлюся да яго асобы болей чым крытычна, гэта значыць з відавочнай непавагай.

**– Вы чыталі двухтомнік Салжаніцына «Двесці гадоў разам», які набыў сумную знакамітасць?**

– Калі я пісаў «Партрэт...», першы том гэтай «гістарычнай працы» Салжаніцына ўжо выйшаў у свет. Мне раілі яго прачытаць, але я адмовіўся – з-за боязі, што гэтае чытанне паўплывае на маю больш ранейшую задуму. Я прачытаў першы том пасля таго, як напісаў сваю кнігу. Другі том проста прагледзіў. Кніга Салжаніцына «Двесці гадоў разам» – даўгая, нудная, ілжывая.

**– А які твор Салжаніцына вы прачыталі першым, Уладзімір Мікалаевіч?**

– «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Але прачытаў я яго нашмат раней, чым ён быў апублікаваны ў «Новом мире». Аляксандр Твардоўскі, галоўны рэдактар часопіса, даў мне пачытаць рукапіс, дастаўлены яму у адзіным экземпляры.

**– Не маглі бы вы паставіць у шэраг кніг Аляксандра Ісаевіча па ступені змяншэння іх літаратурнай значнасці?**

– На першае месца я б паставіў, зразумела, «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», потым, магчыма, «У крузе першым». Далей – «Матронін двор», «Ракавы корпус», а ўсё астатняе выкінуў бы.

**– «Архіпелаг Гулаг» і «Цяля» таксама б выкінулі?**

– Не, канечна, я перабольшыў. «Цяля» яшчэ можна чытаць, хоць гэтая кніга шмат у чым – як вам сказаць – дужа раздражняе вялікай самаўлюбёнасцю аўтара, маніяй велічы. Але і «Гулаг», і «Цяля» чытаць, зразумела, можна і трэба – з папраўкамі і крытыкай.

**– Ну, а «Чырвонае кола»?**

– «Чырвонае кола» чытаць немагчыма, не магу я чытаць такія рэчы.

**– Тады лабавое пытанне, Уладзімір Мікалаевіч, ці лічыце вы Салжаніцына вялікім пісьменнікам зямлі рускай?**

– У лоб адказваю: не лічу. Я думаю, што ён пісьменнік моцна перабольшаны рознымі людзьмі, мной – таксама. Хачу падкрэсліць, што калісьці я быў сярод зацятых абаронцаў Салжаніцына, абараняў яго не проста так, як усе пісьменнікі, а рызыкоўчы ўласным дабрабытам: не падпісваў нейкія калектыўныя лісты, але напісаў асабісты ліст у яго абарону, выступаў на сходах, у Саюзе пісьменнікаў і гэтак далей. Абвінавачванне ў абароне Салжаніцына не было галоўным, калі мяне папрасілі пакінуць Савецкі Саюз. Не галоўным, але адным з важных.

**– Зразумела. Вы ў Германіі, у Мюнхене, перакрыжаваліся з Аляксандрам Ісаевічам?**

– Не, я перасекціся з ім ніяк не мог, таму што яго выслалі ў 1974 годзе, а я ад'ехаў туды ў 1980-м, калі Салжаніцына ў Мюнхене ўжо не было: ён вырушыў у Швейцарыю, а потым перабраўся ў Штаты. У Савецкім Саюзе я не адначы з ім сустракаўся, а калі яго выслалі, быў адным з першых, хто прыйшоў да яго на кватэру, каб падтрымаць сям'ю, якая тут заставалася.

**– Як Аляксандр Ісаевіч ставіцца ці ставіўся да вас як да пісьменніка?**

– У «Цяляці» прыведзена адно з інтэрв'ю Салжаніцына, у якім ён называе найбольш значных пісьменнікаў таго часу. Мяне ён назваў у іх ліку. Так што, паўтараю, у мяне асабістых рахункаў, як мяркуюць некаторыя, з Аляксандрам Ісаевічам Салжаніцыным няма.

**Уладзімір НУЗАЎ, «Русский базар», Grani.ru**

Новы Час
Галоўны рэдактар
**Алена АНІСІМ**

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Каржанеўская, 14. Замова № 159
Падпісана да друку 11.03.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.